PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 15 (2187) Год XLIII Беласток 12 красавіка 1998 г. Цана 1 зл.


Рэчка Локніца каля Кожына. Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Чытачам „Нівы", якія Вялікдзень адзначаюць у днях 12–13 красавіка, жадаем радасных і спакойных Святаў
Рэдакцыя

## Велікодныя паштоўкі

*У сядзібе нашай рэдакцыі можна купіць прыгожыя велікодныя паштоўкі з выявай Уваскрэсенскай царквы ў Бельску. Гэта рэпрадукцыя карціны — алей на палатне — Алега Кабзара. Паштоўку выпусціла Культурна-адукацыйная праграма „Бельск — сэрца памежжа".*

# Быць ці не быць

## чаромхаўскаму прадпрыемству

Уладзімір Сідарук

**— 33 гады прапрацаваў я на гэтым прадпрыемстве. 18 гадоў узначальваў яго, а цяпер лічуся непрыдатным. Павялічу „банк беспрацоўных" або замятаць вуліцу пайду...**

**Прадпрыемства рухомага чыгуначнага саставу пры камуне лічылася самым мнагалюдным працоўным калектывам на чаромхаўскай станцыі. У той час працавала тут 1100 чалавек.**

Мадэрнізацыя і рэструктурызацыя дзяржаўнай чыгункі ў дзевяностых гадах выкінула адсюль паўтысячы штатных працаўнікоў. Многім давялося даязджаць з Чаромхі і Гайнаўкі на працу ў Беласток. Ды не ў тым справа. Чутка пра скарачэнне чарговых на прадпрыемстве штатаў маланкай абляцела ўсіх рабочых. Людзі пачалі ставіць пытанне — што далей?

Апошнія весткі не абнадзейвалі. Беластоцкае кіраўніцтва прадпрыемства абдумвала магчымасць утрымаць рэвізію і рамонт вагонаў, але было вымушана абмежаваць працу цягі і праверкі лакаматываў да мінімуму. Абазначала гэта неабходнасць перамяшчэння людзей у вагоннае рамонтнае дэпо або на іншыя прадпрыемствы. Такая думка не адпавядала шматгадовым спецыялістам і таму яны рашылі заступіцца за свае месцы працы.

Завадатарамі ў гэтым змаганні сталі ўсе тры прафсаюзы: чыгуначнікаў, машыністаў і „Салідарнасць". Вядучую ролю выконваў гэты апошні. Выступіў ён да генеральнага дырэктара ПКП у Кракаве з прашэннем абмеркаваць магчымасць павелічэння працы ў галіне цягі, рамонту і праверкі лакаматываў, а гэтым самым і спыніць скарачэнне штатаў. У якасці арбітра ў перамовах „Салідарнасць" выбрала пасла Юзэфа Мазалеўскага. Сустрэча з ім была назначана на 12 сакавіка г.г. на 14 гадзіну, але ў назначаны час яна не адбылася. Госці не прыбывалі. Каля трэцяй гадзіны зала запоўнілася да апошняга месца, але стол прэзідыума пуставаў надалей. Цішыню перабіў чыйсьці голас.

— Што гэта значыць!? Колькі ж можна чакаць нашага пасла? Хіба ў тылку ён нас мае. Ён сабе смачна абедае, а мы пасля працы не паспелі нават бутэрбродаў з'есці.

— Навошта тут чакаць!? — перабіў іншы. — Пайшлі дамоў.

Іншыя аднак супакоілі — трэба чакаць, бо як пойдзем дамоў, нічога не даведаемся.

Калі госці прыбылі ў залу, сход распачаў М. Чэркаскі.

— Над Чаромхай павіслі чорныя хмары, — сказаў ён. — Хочам мы сёння прадставіць нашым гасцям праблемы, якія накапіліся ў нашым прадпрыемстве. Спадзяемся зразумення і ўсебаковай падтрымкі.

— Задумваемся над магчымасцю, — сказаў Анджэй Сжэдзіньскі, дырэктар рухомага чыгуначнага саставу ў Беластоку, — утрымання ў Чаромсе рэвізіі і рамонту вагонаў у колькасці 300 штук у год. Вымушаны мы аднак абмежаваць цягу і праверку лакаматываў да мінімуму...

Тут выказванне перабіў Анатоль Анішчук, намеснік дырэктара прадпрыемства, які заявіў:

— Патэлефанавалі мне і сказалі, што ў Чаромху паставяць для рамонту і агляду не 300 вагонаў, а 1000. Так што ўсё на добрай дарозе...

У далейшым сваім выступленні дырэктар паведаміў, што мадэрнізацыя і рэструктурызацыя чыгункі неабходная — гэтага патрабуе ад нас Еўрапейскі Саюз. Калі не правядзем гэтага самі, выручаць нас немцы або французы. Заплацім за гэта мы.

— На чыгунцы, — сказаў на заканчэнне А. Сжэдзіньскі, — 35 рамонтных прадпрыемстваў. Кожнае з іх хвалюецца за свой рынак працы. Працу трэба выконваць акуратна, бо ў іншым выпадку можна яе страціць.

— Такі ўжо прынцып эканомікі! —

[працяг ☞ 3]

## У нумары

# Мы прачыталі

*W Rosji na jednym biegunie jest garstka bogaczy, którzy się nakradli, na drugim ogromna większość ludności cierpiąca głód i chłód — tłumaczy co dzień z ekranu przywódca komunistów Ziuganow. Tymczasem oficjalna statystyka, na którą powołuje się Ziuganow mimowolnie przeczernia obraz rzeczywistości, z tej prostej przyczyny, że nikt nie mówi prawdy, wszyscy — poczynając od przedsiębiorców i dyrektorów, a kończąc na robotnikach — zainteresowani są tym, by zaniżać swe oficjalne dochody. Jedni boją się rekietierów, drudzy inspektorów podatkowych, trzeci — jednych i drugich. Działa tu następujący mechanizm. Na każdy rubel funduszu płac przypada 50 kopiejek podatku. Każdy przedsiębiorca — prywatny czy państwowy — uważa za swój święty obowiązek szukanie sposobów, by się od tego wykręcić. Oficjalne wynagrodzenie zaniża się wielokrotnie, a prawdziwych wypłat dokonuje się pod stołem. Według szacunków rzeczywiste wynagrodzenia w niepaństwowym sektorze było 3,5 raza większe od oficjalnych. Handel z Rosją przeżywa niebywały rozkwit. Podobnie budownictwo. W okolicach Moskwy w ciągu ostatnich pięciu-dziesięciu lat zbudowano więcej dacz niż w ciągu siedemdziesięciu lat władzy radzieckiej. W całej Rosji od 1990 r. liczba kupionych samochodów i telewizorów uległa podwojeniu. Nic nie wskazuje na to, że w Rosji w najbliższej przyszłości może dojść do buntu społecznego.*

*Polityka, nr 11*

* * *

*Лукашэнка дзве з паловай гадзіны чытаў свой даклад. Рыгоравіч даў зразумець, што прэзідэнцкіх выбараў у наступным годзе не будзе, паколькі ён збіраецца кіраваць краінай да 2001 года. Калгасы і саўгасы ён назваў дзяржаўнай палітычнай структурай на вёсцы і забараніў дыскусіі пра неабходнасць іх існавання. Праўда, 30% калгасаў, адстаючыя, калектывы якіх спіліся і дзяржаўныя субсідыі туды трапляюць як у бочку, — прызнаў прэзідэнт. З даклада вынікала таксама, што без пагрозы турэмнага зняволення калгаснікі не жадаюць берагчы грамадскую маёмасць як сваю, тэхніку дабіваюць да ручкі. Прэзідэнт параіў старшыням тых калгасаў, дзе малыя надоі, замест кароў трымаць коз.*

*Навіны, н-р 22*

Першы аграном краіны!

* * *

*Ludzie, którzy zwracają się o pomoc do Białorusi muszą zdawać sobie sprawę z tego, że opowiadają się za pewną opcją polityczną sprzeczną z polską racją stanu,* — сказаў намеснік рэктара Універсітэта ў Беластоку, старшыня беластоцкай Уніі вольнасці — Ян Копаня.

*Kurier Poranny, nr 66*

Цікава што будзе, калі нейкі калега Лукашэнкі скажа: „Людзі, якія звяртаюцца ці бяруць дапамогу ў Польшчы, павінны ўсведамляць сабе, што займаюцца палітыкай супярэчнай з інтарэсам беларускай дзяржавы!"

* * *

*Апазіцыя сёння вядзе размову наконт выбараў прэзідэнта ў 1999 годзе. Вы думаеце, што я баюся гэтых выбараў? Справа не ў тым. Але паводле канстытуцыі прынятай на рэферэндуме, выбары павінны адбыцца ў 2001 годзе. Вы ведаеце, што такое выбары. Гэта хаос, неразбярыха. Жадаючых стаць прэзідэнтам — мора. Не трэба выбараў, бо зноў атрымаецца хаос і мы нагрузімся ў вір перадвыбарчай баталіі.*

*Навіны, н-р 23*

Усё праўда, Рыгоравіч здаровы і ў найбліжэйшым перыядзе — сарака гадоў — не павінна быць ніякіх выбараў. А пасля, мае ён двух сыноў, будзе з каго выбіраць прэзідэнта.

* * *

*Łotysze w SS byli w licznym towarzystwie Holendrów, Belgów, Francuzów, Chorwatów, Ukraińców, Słowaków. Esesmani łotewscy twierdzą, że do SS wstąpili z pobudek patriotycznych. Zapominają dodać, że całe oddziały łotewskich hitlerowców brały udział w tak „patriotycznych" akcjach jak likwidacja getta warszawskiego, rozstrzeliwanie Żydów w Rosji i na Białorusi. Kilka tygodni temu została w Rydze spałowana manifestacja rosyjskich emerytów, nieco później odbyła się manifestacja łotewskich esesmanów z udziałem dowódcy łotewskiej armii. Czyżby do NATO Łotysze chcą wejść w mundurach SS?*

*Gazeta Wyborcza, nr 66*

* * *

*Wbrew powszechnej opinii Rosjanki i Ukrainki nie stanowią większości kadry w białostockich domach publicznych. Gros dziewcząt to Polki, które przyjechały do Białegostoku z Warszawy, Radomia i mniejszych podbiałostockich miejscowości. Za godzinę spędzoną z prostytutką klient płacił 150 zł, za pół godziny 100 zł. One dostawały z tego odpowiednio — 45 albo 25 zł. Panowie przyłapani przez policję w łóżku z prostytutkami tłumaczą, że znaleźli się tam z miłości.*

*Kurier Poranny, nr 66*

Беластоцкая паліцыя невядома чаму больш ахвотна сочыць за прастытуткамі, якія сумленна на хлеб працуюць, чым за злачынцамі, якія не дазваляюць ужо спакойным людзям выйсці на вуліцу. Але жывем у горадзе, у якім натоўп „дэвотаў" год таму бегаў ад крамы да крамы шукаючы на прылаўках часопісаў з выявай дам, якія не паспелі апрануцца.

* * *

*Buzek złodziejem,* — заяўляе тыднёвік

*Nie, nr 4*

# З мінулага тыдня

**Locum tenens мітрапаліта**, архіепіскап **Сава** ўзначаліў Сабор епіскапаў Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, які адбыўся 26 сакавіка г.г. у сядзібе варшаўскай мітраполіі. Архіпастыры выбралі новых кандыдатаў у епіскапы. Усячэсны намеснік Супрасльскай лаўры архімандрыт **Міран Хадакоўскі** назначаны Гайнаўскім епіскапам, ігумен Супрасльскай лаўры **Іакаў Касцючук** — Супрасльскім епіскапам, а ігумен той жа лаўры **Грыгорый Харкевіч** — Бельскім епіскапам. Хіратоніі нававыбраных епіскапаў адбудуцца ў маі: 10 — епіскапа Мірана, 11 — епіскапа Іакава, 12 — епіскапа Грыгорыя.

**Адам Белян** — пасол ад АВС і старшыня Незалежнага аб'яднання студэнтаў (НЗС) на бліжэйшым пасяджэнні Сейма перадасць на разгляд парламентарыяў праект рэзалюцыі, у якой асуджаецца рэжым **Аляксандра Лукашэнкі**. Нядаўна дэлегацыя НЗС супольна з міжнароднай студэнцкай арганізацыяй European Democrat Students (EDS) пабывала на Беларусі з мэтай вывучэння становішча тамашніх студэнтаў. У выніку EDS вырашыла пачаць акцыю інфармавання міжнароднага грамадства аб парушэнні правоў чалавека ў Беларусі і праследаванні студэнтаў, якія выказваюць апазіцыйныя ў адносінах да пануючага рэжыму погляды. Адам Белян звярнуўся да польскіх улад з заклікам аблегчыць умовы навукі студэнтам з Беларусі: спрасціць працэдуру атрымання статусу палітычнага бежанца і вярнуць сістэму стыпендыяў польскага ўрада для замежных студэнтаў.

**Камітэт аховы журналістаў** з Нью-Йорка прызнаў **Аляксандра Лукашэнку** адным з дзесяці самых грозных ворагаў свабоднага слова ў свеце. Паводле гадавога рапарта гэтай прэстыжнай арганізацыі, прэзідэнт Беларусі вядзе татальную вайну супраць сродкаў масавай інфармацыі, дазваляе карыстацца незаконнымі метадамі, напрыклад, затрымannямі і пабоямі, каб затармазіць крытыку з боку незалежнага друку. Апрача Лукашэнкі ў спісак дзесяці ворагаў свабоднай прэсы занесены, між іншым, **Антар Зуабры** — лідэр ісламскіх тэрарыстаў у Алжыры, **Дзянь Дземінь** — прэзідэнт Кітая, **Фідэль Кастра** — прэзідэнт Кубы, **Некметын Эрбакан** — былы прэм'ер-міністр Турцыі ці **Салі Берыша** — былы прэзідэнт Албаніі.

**Няякаснасць вады** стала тэмай сесіі Гарадской рады Беластока. Наперакор супакойлівам рапартам беластоцкіх устаноў адмоўную ацэнку якасці вады ў Беластоку дала **Богна Віхроўская** — прадстаўнік Дзяржаўнага інстытута гігіены з Варшавы. Паводле яе нельга хлараваць ваду, паколькі гэта вядзе да ўзнікання канцэрагенных злучэнняў хлору. Самым танным спосабам падрыхтоўкі пітной вады — яе варэнне ў адкрытым посудзе на працягу 7-10 мінут. Заклікала яна гарадскія ўлады пабудаваць аварыйныя калодзежы.

**Свабодны час** на грамадскую дзейнасць адводзіць амаль кожны чацвёрты грамадзянін Польшчы (23%). Найчасцей людзі займаюцца ў асветных (4,5%) і рэлігійных (3,6%) арганізацыях. Ажно 77% грамадства не дзейнічае ў ніводнай арганізацыі. 15% дарослых грамадзян займаецца ў адной арганізацыі, а 8% — у дзвюх.

**Паліцыя** правяла ў Беластоку акцыю маркіроўкі прадметаў, якія найчасцей крадуць зладзеі. Веласіпеды, радыё- і відэаапаратура значыліся спецыяльным фламастэрам, а код (вядомы паліцыі і ўласніку прадмета) можна адчытаць толькі ва ультрафіялетавым святле.



# Весткі з Беларусі

**Кабанчук на волі**

Тры гады ўмоўнага турэмнага зняволення атрымаў 23-гадовы Вадзім Кабанчук, актывіст Маладога фронту — маладзёжнай арганізацыі БНФ, які падчас дэманстрацыі 10 сакавіка 1997 года заатакаваў міліцэйскага апаратара відэакамеры, а 23 сакавіка таго ж года біўся з разганяючымі дэманстрацыю АМАПаўцамі. Кабанчук арыштаваны быў паўгода пазней і чарговыя паўгода правёў у следчым ізалятары. Amnesty International і Human Rights Watch прызналі яго вязнем сумлення. Наглядальнікі ад праваабаронных арганізацый вынесены прыгавор прызналі адносна лагодным. Кабанчук быў выпушчаны на волю адразу з судовай залы. На думку аднаго з лідэраў БНФ Лявона Баршчэўскага, лагодны прыгавор быў вынікам зацікаўлення міжнароднай супольнасці парушэннем правоў чалавека ў Беларусі.

**Праслед дэманстрантаў**

Дэманстрацыя ў Менску, якая адбылася 22 сакавіка г.г. у гонар 80-й гадавіны БНР, закончылася многімі судовымі працэсамі. Дзесяць дзён турэмнага зняволення атрымалі трое апазіцыянераў з Віцебска, якія хацелі занесці пад прэзідэнцкую рэзідэнцыю кардонныя бел-чырвона-белыя буслы — сімвалы незалежнай Беларусі. Тры дні адсядзеў у турме Яўген Скочка з Маладога фронту. А Яна Абадоўскага з Магілёва „невядомыя" злавілі на менскай вуліцы, запхнулі ў машыну, вывезлі ў Курапаты і паказалі месца, дзе будзе ён пакоіцца, калі яшчэ раз асмеліцца прыехаць у сталіцу на апазіцыйную дэманстрацыю.

**Патрыяршы візіт**

На першую дэкаду чэрвеня назначаны візіт прадстаяцеля Рускай Праваслаўнай Царквы патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II у Беларусь. Трэці ўжо прыезд патрыярха ў Беларусь прымеркаваны да 825-годдзя смерці ў Іерусаліме заступніцы зямлі беларускай ігуменні Еўфрасінні Полацкай. Яго Святейцтва ўпершыню за перыяд свайго патрыяршаства наведае Віцебскую і Полацкую епархіі, памятныя мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю ігуменні Еўфрасінні, паклоніцца аднаўленаму крыжу беларускай святой, які з верасня 1997 года захоўваецца ў старажытным полацкім манастыры.

**Шэфства над крэйсерам**

Беларусь бярэ шэфства над цяжкім атамным ракетным крэйсерам „Пётр Вялікі" і адной з атамных падводных лодак Паўночнага флоту, — заявіў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з экіпажам расейскага крэйсера, якая адбылася падчас афіцыйнага візіту ў Мурманскую вобласць Расейскай Федэрацыі. Ён заявіў таксама пра намер аказаць паўначнаморцам і іншую насільную дапамогу.

**Пінскі флот**

На водным шляху Прыпяці ад Мікашэвічаў да Пінска пачалася навігацыя. Цеплаходы задзейнічаны на перавозцы мінеральных тукаў і будаўнічых грузаў, заявак на якія атрымана ў межах 130 тысяч тон. Гэтая добрая вестка для ранняй вясны аб рабоце малога флоту не датычыцца, на жаль, 19 капітанскіх каманд, чые судны вымушаны застаўацца на якары ў пінскім порце Дамашыцы з-за адсутнасці аб'ёмаў работы.

**Указанні для саўгасаў**

Папяровае нашэсце інструкцый — так ахарактарызаваў цяперашні час дырэктар саўгаса Заказельскі Драгічынскага раёна Мікалай Якаўчык. Ён падлічыў, што летась у саўгасе было атрымана звыш 750 розных указанняў, а за няпоўныя тры месяцы гэтага года прыйшло амаль сто тэлефанаграм.

**Указ аб святах**

„Аб дзяржаўных святах і святочных днях на Беларусі" — так называецца ўказ, які падпісаў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Дакумент адзначае, што на Беларусі адзначаюцца наступныя дзяржаўныя святы: Дзень канстытуцыі — 15 сакавіка, Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі — 2 красавіка, Дзень перамогі — 9 мая, Дзень дзяржаўнага герба і дзяржаўнага флага Беларусі — другая нядзеля мая, Дзень незалежнасці Беларусі ці Дзень рэспублікі — 3 ліпеня. Паводле ўказа велікодны панядзелак зноў стане звычайным працоўным днём.

# Тут мае карані

**З жыхарам Орлі Янам КУБАЕЎСКІМ гутарыць Міхал МІНЦЭВІЧ.**



***— У пяцідзесятых гадах Вы працавалі інструктарам у мясцовым доме культуры, арганізавалі калектыў і выступалі ў ім у якасці саліста і ў дуэце з Верай Валкавыцкай, пазнейшай журналісткай „Нівы". Як ацэньваеце стан культуры на вёсцы калісь і сёння?***

— Сапраўды, тады быў я ў дэканскім водпуску і прымаў удзел у стварэнні калектыву мандалістаў і спевакоў, якім кіраваў Радзівон Агіевіч. Многа мы ў той час давалі канцэртаў, а самым вялікім дасягненнем быў удзел у маладзёжным злёце ў Варшаве. Пісалі пра нас у газетах, гаварылі па радыё. Нашы спевакі часта выступалі па гмінным павятовым і ваяводскім вузле. Заснавалі мы таксама драмгурток. Культурная дзейнасць мела вялікае выхаваўчае значэнне, паколькі моладзь займалася карыснай справай. Цяпер, на жаль, моладзю ніхто не займаецца і яна ўзорам паводзін вучыцца з заходніх баевікоў. Вывучаў я адмоўны ўплыў кінафільмаў на псіхіку дзіцяці і пісаў пра гэта ў перыядычным друку.

***— Трыццаць гадоў дарослага жыцця правялі Вы ў Кракаве. Чым вы займаліся?***

— Шаснаццаць гадоў працаваў я ў крыміналістыцы — вёў следствы па забойствах, разбоях, узломах, крадзяжах, ашуканствах, гвалтах. Затым пяць гадоў займаўся выхаваўчай работай сярод маладлетніх злачынцаў. Пасля працаваў я намеснікам дырэктара фірмы Pracownia Sztuk Plastycznych, кіраваў фірмай Pewex, гандлем, будаўніцтвам, экспартам.

***— Што прымусіла Вас вярнуцца з прыгожага Кракава ў родную старонку?***

— Непасрэднай прычынай была просьба бацькоў, якія апрача мяне не мелі нікога, хто імі заапекаваўся б на старасць. Тады ў нас было ваеннае становішча і трывожная атмасфера, небяспека грамадзянскай вайны. Бацькі, якія пасля нямецкай акупацыі апынуліся ў вельмі бядотным становішчы, выслалі, аднак, мяне вучыцца і за гэта рашыў я ім аддзячыць, вяртаючыся ў родную хату.

***— Пасля вяртання паступілі вы на партыйную работу. Жыхары гавораць, што вы многа добрага зрабілі для гміны. Ці вы не шкадуеце гэтага часу?***

— Не шкадую. Гэта была добрая школа жыцця. У праграму дзеяннаў Гміннага камітэта ПАРП уключыў я гаспадарчыя справы: будову школы, амбулаторыі, жылога блока, керамічнага завода, дарог і тратуараў ды іншыя інвестыцыі. Частку гэтых намераў удалося ажыццявіць: стаіць новая школа, маем новыя вуліцы і тратуары, забяспечаная старадаўняя сінагога. Мабыць, каб не замена горшай сістэмы на лепшую... удалося б выканаць рэшту плана. За такую палітыку прыйшлося слухаць папрокі начальства і тлумачыцца, чаму не займаюся ідэалогіяй, а толькі інвестыцыямі. Найбольш я выпакутаваў ад тадышняга першага сакратара Ваяводскага камітэта.

***— Ад дзесяці гадоў ведзяце ў Бельску-Падляшскім бюро юрыдычных парад. З якімі справамі прыходзяць да Вас наведвальнікі?***

— Пераважная большасць спраў датычыць спадчын, разводаў, аліментаў, пенсій, права працы. Наведвальнікі наракаюць, што цяпер змаганне за праўду патрабуе значных грошай на судовыя расходы. У такой сітуацыі я рашыў даваць дармовыя парады пенсіянерам і беспрацоўным у кожны панядзелак ад 13 да 14 гадзіны.

***— Набліжаюцца самаўрадавыя выбары. У народзе ходзіць чутка, што Вы былі б добрым кандыдатам на войта ў Орлі. Якім павінен быць гаспадар гміны?***

— Па-першае: я — пенсіянер і здароўе ў мяне дрэннае. А на поўнай стрэсаў пасадзе войта павінен працаваць чалавек з добрым здароўем і моцнымі нервамі. Па-другое: ніхто мне гэтай пасады не прапанаваў. Войт, а таксама загадчык любой установы павінен быць добрым арганізатарам, вылучацца высокай асабістай культурай, умець працаваць з калектывам, адпаведна ацэньваць сваіх падначаленых, з пашанай ставіцца да наведвальнікаў. Павінен ён характарызавацца рашучасцю, аператыўнасцю, настойлівасцю ў змаганні за дабро гміны. І яшчэ адна справа: нельга яму сябраваць з алкаголем падчас працы і ў свабодны час таксама трэба захаваць меру.

***— Дзякую за размову.***

*Фота Міхала Мінцэвіча*

# Да ўвагі вучняў падставовых школ

Дырэкцыя II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы аб'яўляе, што будзе прымаць вучняў у першыя класы з канкрэтным профілем і абавязковымі замежнымі мовамі:

— матэматычна-фізічным (англійская, нямецкая),
— біялагічна-хімічным (англійская, нямецкая),
— гуманістычным (руская, нямецкая),
— музычным (руская, нямецкая),
— агульным (англійская, руская).

* * *

Дырэкцыя Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім аб'яўляе, што будзе прымаць вучняў у першыя класы з профілем

— матэматычна-фізічным,
— біялагічна-хімічным,
— агульным.

Да прашэнняў трэба прылажыць біяграфію, дзве фатаграфіі, „баланс здароўя", пасведчанне заканчэння падставовай школы (да 19.06.1998 г.). Уступныя пісьмовыя экзамены будуць праводзіцца:

— па польскай мове — 22 чэрвеня (панядзелак),
— па матэматыцы — 23 чэрвеня (аўторак),
— вусныя (паправачныя) — 25 чэрвеня (чацвер).

Дадатковыя балы вучні атрымаюць за ацэнкі на пасведчаннях заканчэння падставовай школы па беларускай або замежнай мове, польскай мове і матэматыцы.

**А. М.**

# Чарговая гутарка пра пушчу

**— Вы гаворыце пра ахову, а цыстэрны з атрутай надалей ездзяць праз Белавежскую пушчу. Скажыце, што будзе з намі і з лесам, калі здарыцца нейкая аварыя. Няма ж дастатковай аховы цягнікоў з хімікатамі, а месцамі ж і рэйкі старыя?! — пытаў Ян Байко, жыхар Гайнаўкі. — Семяноўскі заліў пераўтвараўся ж ужо ў смярдзюшку, а меў жа быць нашым месцам адпачынку.**

22 сакавіка 1998 года ў Гайнаўскім доме культуры адбылася сустрэча з Кшыштафам Вольфрамам, дырэктарам „Зялёных лёгкіх Польшчы", палітыкам Уніі вольнасці, які прыехаў з прапанавай дыскусіі на тэму „Белавежская пушча і Еўрапейскі Саюз". На сустрэчу прыйшло чалавек трыццаць, сярод якіх было двух гайнаўскіх радных — Мікола Бушко і Васіль Іванюк.

Спадар Кшыштаф Вольфрам пазнаёміў прысутных са спосабам фінансавання розных пабудоў і мерапрыемстваў арганізацыямі Еўрапейскага Саюза і расказаў пра ўтварэнне і дзейнасць „Зялёных лёгкіх Польшчы", якія выдаткавалі ў Польшчы 300 мільёнаў долараў.

Калі прысутных паведамілі пра дзеянні па пераўтварэнні ўсёй Белавежскай пушчы ў запаведнік, завязалася дыскусія. Сумненні тычыліся месцаў працы для жыхароў Гайнаўшчыны пасля ўвядзення вострых законаў аховы лесу.

Калі прагучала выказванне, што без дадатковых грошай самаўрады не згодзяцца на запаведнік, спадар Вольфрам перасцярог, што мусяць яны спяшацца, бо паводле еўрапейскіх законаў не будзе абавязку пытаць мясцовыя ўлады пра згоду, а Польшча намагаецца ж увайсці ў Еўрапейскі Саюз. Яшчэ большую дыскусію выклікалі сцвярджэнні спадара Вітальда Татарчыка: **„Мы тут гутарым, а пушча гіне"** і спадара Вольфрама: **„Сцяна лясоў ахоніць тэрыторыю ад Мельніка да Эльбланга".**

У час гутаркі паяўляліся запытанні пра ачышчальні сцёкаў, каналізацыю і экалагічную адукацыю ў школах. Некаторыя прысутныя звярталіся да спадара Вольфрама, як да прадстаўніка Уніі вольнасці, якая мае ўплыў на мясцовыя ўлады.

Дыскусія закончылася сцвярджэннем дырэктара Вольфрама: — Калі пушча пераадолела столькі ваенных завеяў і розных складанасцей, дык і цяпер не загіне.

**Аляксей Мароз**

# Быць ці не быць...

[1 ☞ праця]

сказаў чарговы прамоўца пасол Ю. Мазалеўскі.

Спачатку хацеў ён прадставіць напрамкі рэформаў цяперашняй кааліцыі, але яму перабілі галасы з залы.

— Толькі без палітыкі і агітацыі!

Ю. Мазалеўскі запэўніў, што як член сеймавай камісіі транспарту будзе дапамагаць чыгуначнікам у правільным правядзенні мадэрнізацыі і рэструктурызацыі чыгункі. Да пасла звярнуўся войт Чаромхаўскай гміны з просьбай ад самаўрада, каб той паспрыяў перайменаванню статуса пагранічнага перахода з польска-беларускага на міжнародны, бо гэта будзе мець вялікае значэнне пры разбудове ўсёй інфраструктуры.

Тут пачалася дыскусія. Вось найважнейшыя галасы, якія ў ёй прагучалі.

— Што такое „банк лішніх людзей"? — запытаў спадар Аўярчук дырэктара рухомага чыгуначнага саставу, затым звярнуўся да войта: — Ці маеце вы магчымасць даць працу ўвольненым чыгуначнікам?

Войт адразу адказаў, што магчымасцяў ніякіх няма — 39 штатаў на інтэрвенцыйныя працы будуць абмежаваны да мінімуму. Дырэктар рухомага чыгуначнага саставу паясніў, што справа датычыць не лішніх людзей, а непатрэбных штатаў. „Банк" кожнаму, хто ў яго запішацца, абавязаны знайсці працу — на чыгунцы або ў іншым прадпрыемстве.

— 33 гады прапрацаваў я на гэтым прадпрыемстве, — сказаў Мікалай Янчук. — 18 гадоў узначальваў яго, а цяпер лічуся непрыдатным. Павялічу „банк беспрацоўных" або замятаць вуліцу пайду. Трагедыяй для Чаромхі аказалася блакада ўсходняй мяжы ў 1992 годзе. Мы не павінны глядзець на рускіх як на ворагаў, а наладжваць з імі як найлепшыя адносіны, бо там наш вялікі рынак збыту.

Ю. Мазалеўскі адказаў, што ніхто мяжу не зачыняў — кожны, хто захоча, можа туды паехаць.

Спадар Дунда запытаў пра закрыццё чыгуначнага шляху Бельск — Гайнаўка — Белавежа.

— Уваходзім у Еўропу, а нам закрываюць лінію і вызваляюць 600 чалавек. У ваколіцы Седльцаў знялі рэйкі, якія маглі б замяніць нашы на гэтым адрэзку, але іх парэзалі на металалом. Дзе ж тая эканоміка?

— Пра тое, што ў чыгуначнай вярхушцы не думаюць лагічна, — сказаў Лявон Селях, чаромхаўскі купец, — хай сведчыць той факт, што калі я надумаўся адправіць вагон у Высока-Літоўск (некалькі кіламетраў ад нас) мусіў затраціць шмат каштоўнага часу, бо не хапае ў нас фітасанітарнага чыноўніка, які падпісвае дакументы. Не лепш і са справай аплаты за перавоз. Вымушаны я плаціць за кіламетры з Варшавы, бо так напісана ў законах.

Спадар Бялецкі запытаў, ці Чаромха будзе існаваць і ці будзе тут праца ды дзе рашаецца гэтая праблема — у Беластоку, Варшаве ці ў Кракаве? Падобнае пытанне крануў спадар Бідуля.

— Нас неаднойчы манілі абяцанкамі. Хто нам гарантуе, што тэлефон пра 1000 вагонаў не будзе заўтра адменены. Чаму якраз сёння нам пазванілі, у час, калі мы рашаем гэтую праблему?

Янка Шатыловіч запытаў пра металалом.

— Чаму металалом адпраўляе адна толькі фірма, якая купляе яго ад нас за палову цаны і на гэтым зарабляе?

— Усё гэта праўда, — голас узяў старшыня варшаўскай „Салідарнасці". — Мы пра гэта ведаем. Бяда, аднак, у тым, што ў прыватных фірмах сядзяць высокія чыгуначныя функцыянеры, якія пра гэтыя справы рашаюць. Мы з гэтым змагаемся, але пакуль адмяніць сітуацыю нельга.

На заканчэнне голас узяў пасол Ю. Мазалеўскі.

— На прыкладзе Чаромхі мы бачым, як неабходныя для нашай краіны перамены і адміністрацыйная рэформа. Бюджэтам і фінансамі павінны распараджацца гміны і паветы, а не ўраднікі за пісьмовымі сталамі ў Варшаве ці Кракаве. За гэта мы павінны змагацца.

Удзельнікі, працаўнікі прадпрыемства рухомага чыгуначнага саставу пакідалі сустрэчу з невялікім аптымізмам. Цікава толькі, ці доўга будуць насіць яго ў сваіх думках.

**Уладзімір Сідарук**

# Вершы канкрэтнага супраціву

**Гутарка са Славамірам АДАМОВІЧАМ**

***— Свой апошні паэтычны зборнік ты падпісаў мне як „работніку „Нівы”, з якой я пачаў свой шлях у Беларусь”. Ці можаш распавесці пра гэты пачатак?***

— Я меў на ўвазе тое, што на пачатку 70-х, калі я хадзіў у школу, мой бацька выпісваў „Ніву” з Беластока. Я чытаў, не заўсёды ўяўляючы, што чытаю, але вось гэтыя тэксты жывой беларускай газеты запалі ў памяць. „Ніва” гэта была рэальная беларуская газета, гэта быў рэальны беларускі дух, які, як ні дзіўна, зыходзіў з Польшчы.

Потым, праз дзесятак гадоў я ўспомніў тое, што чытаў і Сакрата Яновіча, паэзію з альманахаў „Белавежы”. Калі прыйшоў час, у сталым узросце, я стаў задумвацца: што ж я чытаю, што такое Беларусь, і чаму яна не тут у межах Беларусі, а яна там, у межах Польшчы? З гэтага паўсталі пытанні, а паколькі паўсталі пытанні, я спрабаваў іх адказаць.

***— Быў калісь іншы Адамовіч, Вячаслаў, таксама літаратар, які стварыў дыверсійна-сабатажную арганізацыю „Зялёны Дуб”. Ці меў ты гэты прыклад перад вачыма, ствараючы арганізацыю „Правы Рэванш”?***

— Непасрэдна, вядома, не. Але ведаў прыклады з гісторыі, якія працавалі самі па сабе. Тое, што я рабіў і раблю, і мае калегі робяць у розных жанрах — мы робім сёння сваю, новую Беларусь, не столькі на канец XX стагоддзя, але на XXI стагоддзе. Мы робім сваю Беларусь, але маючы ў памяці герояў, якія былі на пачатку стагоддзя.

***— На пачатку стагоддзя бацька Булак-Балаховіч спрабаваў заваяваць уладу ў Расіі. Цяпер бацька Лукашэнка робіць тое ж, толькі не зброяй, а словам. Хіба ж гэта не доказ, што гісторыя паўтараецца як фарс?***

— Гісторыя паўтараецца як фарс, але мушу катэгарычна запярэчыць параўнанню Лукашэнкі з Булак-Балаховічам. Лукашэнка не мае ніякай ідэі, ніякай уявы таго, што можа збудаваць дыктатура. Таму ён не стане дыктатарам. Якім ён сёння, такім і застанецца — недаробленым. Ён ніхто, марыянетка.

***— Тое, што ўсё дзеецца быццам бы ў марыянетачным тэатры, болей у тэлебачанні, чымся ў рэчаіснасці, паказвае, што не стала сапраўдных мужчын. Прынамсі гэта вынікае з тваёй „Літаніі” са зборніка „Каханне пад акупацыяй”.***

— Так яно і ёсць. Што да жанчын і майго непасрэднага да іх звароту, я і кажу, што адна з формаў беларускага супраціву гэта эрас.

***— Пра які эрас ты гаворыш, калі мужчыны не змагаюцца, а жанчыны не родзяць дзяцей?***

— Я даю прыклад сэнсу. У жыцці прыватным, у жыцці грамадскім павінна быць мэта, павінен быць сэнс. Калі нашай мэтай — нармальная, незалежная Беларусь, тады наш сэнс гэта секс, а лепей сказаць — наш беларускі эрас. Гэта адна з формаў, дзе можам разгарнуцца, дзе можам паказаць сябе як этнас і разгарнуць экспансію. Наша прастора проста нам на гэта дазваляе. Пладзіцца, пладзіцца і яшчэ раз пладзіцца. Таму, што нашы землі, нашы пушчы сёння пустыя, яны сёння патрабуюць нашай плоці.

***— Твае дзеянні і твае вершы ўспрымаюцца як быццам у двукоссі. Пішаш паэзію сваім жыццём. Ці гэта не стварае небяспекі, што канец канцоў разгубішся? Твой „Дзённік рэваншыста” расхваліў крытык Ян Максімюк, а вось вершы з твайго апошняга зборніка „Спіраль Бруна” нейк не запамінаюцца.***

— Гэта вершы, якія напісаліся падчас сядзення за кратамі. Была магчымасць іх надрукаваць і я яе скарыстаў. Але маю свядомасць, што гэта далёка не лепшыя вершы. Самыя лепшыя гэта ўсё ж такі напісаныя на свабодзе. А гэтыя — праходны збор.

***— Цяпер плануеш дзеянне ці пісанне?***

— А так атрымоўваецца, што застаецца дуалістычная праблема і дзеяння, і пісання. Такая сітуацыя. Можа бы і зараз... я б хацеў — адыміце ў мяне гэтую асадку. Дайце мне эркаэм з трыццаццю набоямі, і гэтай асадкай-эркаэмам я напішу лепшыя вершы, вершы супраціву. Канкрэтнага.

**Гутарыў Алег Латышонак**

# Яшчэ адзін урок самаедства

27 сакавіка рэдакцыя радыёперадачы „Пад знакам Пагоні” ў Polskim Radio Białystok правяла своеасаблівы суд над „Нівай”. Адна са знакамітасцей беларускай журналістыкі Марко Заброцкі, выступаючы з пазіцыі прафесіянала, рашыў ацэньваць нашу газетную творчасць. Запісаў выказванні старшыні Беларускага саюза Яўгена Вапы, рэдактара „Часопіса” Юры Хмялеўскага і вядомых з паталагічнай нянавісці да „Нівы” старшыняў — Звязу беларускай моладзі Юры Асенніка і БГКТ Яна Сычэўскага. Былі таксама выказванні прадстаўнікоў „Нівы” — Віталя Лубы і Яўгена Мірановіча. Паколькі аднак у перадачы „Пад знакам Пагоні” дамінавалі паклёпніцтвы Асенніка і Сычэўскага, пасля перадачы ў некаторых слухачоў узнікла ўражанне, што адзіная ў Польшчы газета на беларускай мове нікому ўжо непатрэбная.

Асеннік, які ўзначальвае невядома нават ці існуючую арганізацыю, спачатку заявіў, што „Ніву” не чытае, а пасля — ужо традыцыйна — узяўся ацэньваць яе змест. Паводле Асенніка, „Ніва” — гэта прымітыўная, кансерватыўная газета і прадстаўляе інтарэсы „людзей, якія займаюць там пасады”. Ставіў нам у закід, што пішам пра дзіця, якое загаварыла на беларускай мове, а не напісалі пра яго вялікае дасягненне ў Пуньску. Сапраўды не ведаем нічога пра дасягненні Асенніка ні ў Пуньску, ні ў іншых мясцовасцях; горш, не ведаем нават, у якой галіне дзейнасці мог ён дасягнуць поспехаў. Стараемся, дарэчы, здалёк абмінаць людзей фальшывых і зласлівых. Зэбээмаўскі лідэр абвінавачваючы рэдакцыю ў тым, што не паінфармавала пра яго пабыўку ў Пуньску (з якой нагоды?), зрабіў гэта паводле найлепшых бэгэкатоўскіх узораў. Заявіў таксама, што ніхто з яго сяброў, „сведамых беларусаў”, не чытае „Ніву”. Верым. Ведаем аднак, што ўсе яны таксама ахвотна выказваюцца пра змест і характар тыднёвіка. Знакамітыя кандыдаты, каб судзіць нашу сумленнасць і прафесіяналізм.

Значна большы стаж у змаганні з ніўскім вольнадумствам мае Ян Сычэўскі. Ад часу калі „Ніве” ў 1992 годзе ўдалося вырвацца з-пад „апекі” яго каманды, Сычэўскі не прапусціў ніводнай нагоды, каб не паклёпнічаць на рэдакцыю. Свае пачуцці дэманстраваў на старонках „Czasopisa”, „Przeglądu Prawoslawnego”, у радыёперадачы „Пад знакам Пагоні”, на ўсялякіх сходах у прысутнасці польскіх дзяржаўных улад, а апошнім часам у Сейме, калі разглядалася сітуацыя беларускай меншасці. У суботняй радыёперадачы „Пад знакам Пагоні” паўтарыў толькі ўсю сваю, ужо дзесяткі разоў сказаную дэмагогію — пра маральнасць, прафесіяналізм, адказнасць журналістаў „Нівы”. Традыцыйна абвінавачваў нас у „прымітыўным палітыканстве і цынічным умешванні ў справы суседняй дзяржавы Рэспублікі Беларусь”. Быццам бы яго ўдзел у лукашэнкаўскіх з'ездах ці брутальная крытыка катаванай на вуліцах Менска беларускай апазіцыі (Беларускае тэлебачанне, 28 ліпеня 1997 года), была толькі праявай культурнай дзейнасці бэгэкатоўскага лідэра.

Не здзіўляюць мяне поўныя нянавісці выказванні Асенніка і цынізм Сычэўскага — гэта як бы неад'емныя элементы нашага тут жыцця. Такога фармату дзеячы калісь нават дамінавалі ў нашым грамадстве. Цяпер, на шчасце, гэта толькі крайнасці, якія выступаюць у кожным грамадстве. Ніякія аднак іх паклёпніцтвы нават на хвалях Польскага радыё не паўплываюць на працу журналістаў „Нівы”. Маем надзею, што мінуў час, калі журналісты вымушаны былі пісаць па загадзе ўсялякіх царыкаў. Мы надалей будзем пісаць толькі згодна са сваім сумленнем. Але калі калегі з радыёперадачы „Пад знакам Пагоні” хочуць захапляцца імпрэзамі тыпу мінулагодняга „Купалля”, „Дзядоў” ці сёлетняга святкавання 25 Сакавіка, арганізаванымі, відаць, патаемна „зэбээмам”, ці „ўзрастаючым узроўнем” бэгэкатоўскіх фэстаў і фестываляў, тады — карыстаючыся іхняй тэрміналогіяй — „жадаем паводзін”. Дазволім сабе аднак мець уласныя меркаванні на гэтыя тэмы. Лепш ужо мець сваё ўласнае аблічча, нават брыдкае, чым маску блазна.

**Яўген Мірановіч**

# 80 гадоў Акту 25 Сакавіка



*Тамаш Саевіч.*

Пад такім лозунгам у II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы адбылося 25 сакавіка г.г. святкаванне ўгодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларусі.

З самой раніцы вучні Беларускага ліцэя сустрэліся ў актавай зале, дзе Клуб польска-беларускіх спраў арганізаваў гістарычна-літаратурны мантаж, звязаны з падзеямі 1918 года. Вучні напомнілі пра вайсковыя змаганні на беларускіх землях і палітычныя намаганні беларусаў дзеля стварэння ўласнай дзяржавы. Апрача інфармацыі пра абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў сакавіку 1918 года, ліцэісты слухалі дэкламацыі вершаў. Вучні, якія спяваюць пад старшынствам чацвёртакласніка Аркадзія Гаўрылюка і ліцэісты са школьнага калектыву, з якім працуе Бажэна Ляўчук спявалі патрыятычныя песні („Магутны Божа”, „Малітва”, „О Божа Усеўладны”). Вучні выказалі меркаванні, што і зараз беларускі народ не застанецца пасіўным і будзе змагацца за сапраўдную незалежнасць. З пажаданнямі выступіў дырэктар Яўген Сачко, дзякуючы вучням за падрыхтоўку школьнага спаткання. Тамаш Саевіч, галоўны арганізатар сустрэчы, выказаў надзею, што святкаванне 25 Сакавіка стане ўжо школьнай традыцыяй, занесенай у план працы школы.

Трэба адзначыць, што гістарычна-літаратурная сустрэча была добра прадумана, а матэрыял падабраны трапна. Ліцэісты вельмі цёпла ўспрынялі выступленні сваіх сяброў і сябровак.

Пасля чатырох урокаў гайнаўскія ліцэісты на трох аўтобусах падаліся на святкаванні ў Беласток. На малой сцэне Тэатра імя Аляксандра Вянгеркі глядзелі спектакль „Чароўная ноч” у выкананні артыстаў Тэатра імя Янкі Купалы з Менска. Пазней вучні паехалі яшчэ на мерапрыемства арганізаванае беластоцкім аддзелам БАСа з Беларускім саюзам, якое адбылося ва універсітэце. Пасля даклада доктара Алега Латышонка і выступлення старшыні БС Яўгена Вапы, звязаных са святкаваннем 25 Сакавіка, вучні выслухалі аўтарскія песні Віктара Шалкевіча і вечаркам вярнуліся ў Гайнаўку.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

## Папраўка

У артыкуле Алены Анішэўскай „Беларускія дзеці ў Польшчы” былі дапушчаны дзве памылкі. Старшынёю Варшаўскага аддзела БГКТ з'яўляецца Міхаіл Алексяюк, а аўтарка — член праўлення таго ж аддзела. У адрасе Канвента няправільна пададзена вуліца — павінна быць: ul. Górskiego 7.

Перапрашаем.

# Дэкламавалі ліцэісты



*І месца — Юліта Адамюк з Гайнаўкі.*

26 сакавіка г.г. у Бельскім доме культуры адбыўся цэнтральны дэкламатарскі конкурс моладзі сярэдніх школ і дарослых „Сцэнічнае слова", у якім выступіла больш чым дваццаць дэкламатараў і тры тэатральныя групы з Бельскага і Гайнаўскага беларускіх ліцэяў.

У вялікай зале БДК сабраліся вучні беларускіх ліцэяў, іх настаўнікі і некалькі журналістаў. Прысутных і журы, якое ўзначаліла візітатар Тамара Русачык, а членамі якога былі працаўнік БДК Яніна Плютовіч і журналіст Янка Целушэцкі, прывітаў старшыня БГКТ, пасол Янка Сычэўскі.

Конкурс пачала тэатральная група з Бельскага беларускага ліцэя, якая выступіла з літаратурна-музычным мантажом „Беларусі ў любові пакланяюся", што друкаваны быў у „Родным слове". Як пасля высветлілася, ліцэісты з Гайнаўкі падрыхтавалі тую ж самую пастаноўку і можна было параўнаць абедзве інтэрпрэтацыі. Ужо сам загаловак паказваў, што мантаж будзе мець патрыятычны характар. Вершы Рыгора Барадуліна „Мая Бацькаўшчына", „Мая мова" ці верш Янкі Купалы „А хто там ідзе" паказвалі, якое выхаванне прапагандуе „Роднае слова". Песні „Беларусачка", „Люблю наш край" і „Колькі ў небе зор" падтрымлівалі пафасны настрой. Журы вырашыла даць за гэтыя пастаноўкі раўнапраўныя другія месцы. Красамоўнай дэкламацыяй вылучыліся тут Малгажата Гушч з Бельска і Агнешка Галімская з Гайнаўкі. Тэатральная група з Бельска, якая выступіла апошняй, паказала „Хатні эксперымент", за што атрымала трэцяе месца. Увагу гледачоў прыцягваў робат (вучаніца ў скрынцы), які меў выручаць у розных хатніх працах (мыць посуд, прыбіраць кватэру). Дзяўчаты даказвалі, што ніякі робат у ніякай хатняй працы не можа замяніць мужа. Відаць, бельскія хлопцы не былі згодны з такім тэзісам, бо ролю мужа таксама прыйшлося іграць дзяўчыне.

Хаця здараліся моўныя хібы, звязаныя з акцэнтуацыяй ці вымаўленнем, трэба адзначыць, што многа было здольных, добра падрыхтаваных вучняў, якія паказалі арыгінальную дэкламацыю. За верш Алеся Разанава „Палёт" і прозу Сакрата Яновіча Юліта Адамюк з Гайнаўскага ліцэя, разам з Аннай Шымчук, якая чытала верш Уладзіміра Караткевіча „На Беларусі Бог жыве" і фрагмент трылогіі Якуба Коласа „На ростанях" атрымалі першыя раўнапраўныя месцы. Вельмі арыгінальна прозу Яновіча дэкламавала Юліта Адамюк. Другія месцы атрымалі Агнешка Дэмбоўская і Моніка Самойлік з Бельска. Трэція месцы — Ілёна Карпюк з Гайнаўкі, Дарота Кулачэўская і Галена Сідэвіч з Бельска. Сярод апошніх вылучэнні атрымалі Іаанна Кулачэўская, Агнешка Якімюк і Барбара Ткачук з Бельскага ліцэя і Агнешка Галімская з Гайнаўскага.

**Аляксей Мароз**

*Фота Яўгена Алексеюка*

# Моль у пустым чамадане

*„Народны Альбом* зьяўляецца дарам асобных прадстаўнікоў Народа Беларусі ўсяму Народу Беларусі. Народ Беларусі, такім чынам, прысутнічае ў супольным праекце ў якасьці асобных прадстаўнікоў (выканаўцаў і дапаможных), у якасьці слухачоў, гледачоў, а таксама ў якасьці вобразаў і пэрсанажаў". (Запрашэнне на прэзентацыю альбома. „Наша Ніва", № 35 (96), 15 сьнежня 1997).

*Асобныя прадстаўнікі народа* гэта не абы-хто: музыка — мультыінструменталіст і вакаліст — Лявон Вольскі, спявачка Кася Камоцкая, тэкставік Міхал Анемпадыстаў і цэлая плеяда памагатых: гурт *NRM*, гітарыст Слава Корань, Вераніка Круглова і *Крыві*, Зміцер Вайцюковіч і *Палац*, гукарэжысёр Аляксандр Додзь і многа, многа-многа іншых, вядомых у музычным жыцьці Менска асоб.

*„Народны Альбом* складаецца з 26 песень пра Змаганьне, Застольле альбо Каханьне. Асобна вылучаюцца песьні пра жыцьцё і долю. Падзеі адбываюцца ў акупаванай белапалякамі Заходняй Беларусі (міжваенны пэрыяд). Музычны стыль: альтэрнатыўны фольк". (З таго самага запрашэння).

У *Народным Альбоме* няма традыцыйнага фальклору — створанага ананімным народам у сівую мінуўшчыну. Тым не менш, песні ў ім, хоць і аўтарскія, але могуць быць сапраўды народнымі, гэта значыць такімі, якія спявае, якімі захапляецца ў дадзены момант народ. Тут і „Крэўская полька", і танга, і раманс пра кантрабандыстаў, і сатырычная гісторыя двух польскіх шпіёнаў, і настальгічная яўрэйская песня, і ваенна-імперскі дух у нямецкіх ды савецкіх маршах, і зусім сучасныя афра-амерыканскі рап ды савецкая папса. Музычная гісторыя Беларусі нашага стагоддзя, якая выходзіць па-за межы міжваеннага перыяду, прычым, у два бакі.

Для мяне асабіста, вялікую прыемнасць дастаўляе ўключана ў альбом надзвычай папулярная на Беласточчыне ў пасляваенныя гады ды ўсё яшчэ вядомая песня „Надзенька" (у маёй вёсцы гераіню звалі Нюрачкай) — „Ой вы дзевачкі-беларусачкі, не ўлюбляйцесь у ваенных рабят". Песня з сімвалічным для Беларусі вобразам: гераіня застаецца на пероне (чытай: у дурнях) „з чамаданам пустым у руках". Пастаяла так, „з цем ушла дамой, так прайшлі маладыя гада".

*Народны Альбом* запісваўся год. Ствараўся сама менш гады два. І гэта чутно. Найвышэйшае музычнае майстэрства — нават радасныя піўныя імправізацыі перфектна дапрацаваныя, — інтэлігентныя тэксты, прыхаваны сэнс якіх пачынаеш лавіць толькі пасля некалькіх перагонаў касеты. За кожным слуханнем аб'яўляюцца ўсё новыя дэталі, усё новыя жамчужыны. Як тая моль, што магла „пажэрці вопратку" ў слічнай зімовай дыска-песні „Сьнежань, студзень, люты".

**М. В.**

*Народны альбом. Супольны музычны праект. Ковчег, Мінск 1997.*

# Яднанне разбітага свету

**Тэрэса Занеўска**

Хто сёння яшчэ чытае паэзію? Асабліва такую паэзію. Павернeную к мінуламу, настальгічную, напоўненую тугой па чымсьці няўлоўным, чаго ўжо няма. Яве? Сне? Такія разважанні спадарожнічаюць чытачу, які схіляецца над паэтычнымі радкамі Алеся Барскага (Аляксандра Баршчэўскага). Ягоныя вершы ўсведамляюць нам, у якой ступені наша мінулае патрабуе ад нас увекавечання, у якой меры яно жывое і прысутнае ў нашых буднях. Настальгічнасць паэзіі Алеся Барскага з'яўляецца своеасаблівым аглядам свету. Заключаная ў ёй прыгажосць дае нам прыемнасць, але і спараджае боль. Ягоная лірыка — калі б прымяніць словы Тадэўша Канвіцкага — гэта акт развітання з тым, што прайшло; праз яе пасрэдніцтва паэт развітваецца з перыядам свайго дзяцінства, з мінулым, да якога нельга вярнуцца. Тужыць па трывалых каштоўнасцях, перажыванні ператварае ў вобразы, а здарэнні — у памяткі. Паэтычныя ўспаміны падвяргаюцца ідэалізацыі. Паэта выразна захапляе міфастваральная роля мінулага.

У цэнтры паэтычных зацікаўленняў Алеся Барскага знаходзіцца чалавек, які разумее пачуццё важнасці свайго існавання, адчувае патрэбу метафізічнай рэфлексіі над тайнамі свайго лёсу, што красамоўна заўважаецца перш за ўсё ў паэме „Блізкасць далёкага". Паэт захапляецца загадкай лёсу, з якім чалавек хоча выйграць у сваім змаганні. Алесь Барскі — як кожны творца — сядае пісаць з багажом уласнага вопыту і ведаў. Але паэтычная ўзрушанасць, любоў, надзея і боязь плывуць таксама з акаляючага паэта свету і штодзённага з ім быцця, напоўненага працай, надзеяй, неспакоем і страсцю. Ужо сорак гадоў Алесь Барскі схіляецца над чалавекам, які імкнецца штораз вышэй і вышэй, над яго ўнутраным расколам паміж родным парогам, вытаптаным нагамі некалькіх пакаленняў, і вялікай брамай, за якой у бетонным і каменным гарадскім свеце нараджаюцца новыя шанцы і заадно цярпенне, боль і пакута. І нейкая неакрэсленая сіла пераносіць чалавека ў „краіну дзіцячых гадоў", у бяспечнае і святое месца нараджэння. Уяўленне падсоўвае вобраз зямлі, на якой ставіліся першыя крокі, краявіды, якія ўпершыню пабачылі нашы вочы. Не мур пабачыў паэт, але дрэва („Пачынаюся там,/ Дзе гранічыць таполя/ Каронаю з небам"), а найсмачнейшую ў жыцці лусту хлеба працягнула матчыная далонь. Любоў да зямлі, якая родзіць хлеб, пашана для старых, знішчаных працай рук, клапатлівасць, працавітасць — гэта каштоўнасці, якія сталі канвой лірыкі Алеся Барскага, абапертай галоўным чынам на традыцыі і краявідзе, сягаючы да натуральных вясковых каранёў. Нягледзячы на тое, што паэт няспынна адклікаецца да сваёй малой айчыны, яго паэтычныя здзяйсненні трэба трактаваць ва універсальны спосаб. Універсальныя з'явы маюць свае крыніцы. Маем тут дачыненне да паэзіі, якая расказвае пра чалавека і ягонае жыццё. А чалавек, жыццё, свет — гэта перш за ўсё месца. Такім чынам у лірыцы Алеся Барскага няма супрацьпастаўлення паміж лакальнасцю і універсалізмам.

Пачуццё глыбокага ўкаранення ў геаграфічна акрэсленай прасторы, магчымасць вярнуцца ў месца свайго нараджэння дае пачуццё ўнутранай сілы і паўнаты чалавечнасці. Адсутнасць магчымасці рэальнага і ўяўнога вяртання выклікае акрэсленыя наслядоўнасці. Таму ў лірыцы Алеся Барскага ўвесь час прасочваецца рэфлексіўны тон аб немагчымасці адвярнуць ход жыцця, якое з'яўляецца раптоўным або павольным працэсам страты найважнейшых для чалавека спраў — уласнага месца на зямлі, дому і краявіду. Застаюцца толькі ўспаміны — чым чалавек старэйшы, тым часцей вяртаецца ён у іх да свайго дзяцінства і маладосці. Аддаленасць больш вострай чыніць памяць, таму з дакладнасцю этнографа аднаўляе паэт вядомыя і блізкія сэрцу пейзажы: родныя Бандары, прынарваўскія лугі, рыжыя пожні, адурманьваючую зелень Белавежы. Краявід становіцца тут першапланавым элементам паэтычнага ўяўлення. І пейзажы, і людзі тут звычайныя, а іхны лёс, перажыванні і адчуванні ўпісаны ў парадак натуры.

Зыходным пунктам лірыкі Алеся Барскага пераважна з'яўляецца абстракт, які акрэслівае спосаб існавання чалавека: думка, памяць, свядомасць, нейкі эмацыянальны стан. Пачаткам таго, што заіснуе ў вершы, заўсёды з'яўляецца чалавечае нутро, якое ў паэтычным выказванні называе сябе адзіноцтвам, пакутай, болем існавання, настальгіяй. Зыходным абстрактным паняццем часта з'яўляецца памяць як комплекс гетэрагенных элементаў, так розных, як рознымі з'яўляюцца прад'яўленыя мінулым адчуванні. Дзякуючы гэтаму паэтычны свет Алеся Барскага адыходзіць ад плоскага кшталту слова, набывае выразнасць і афарбоўку, а галоўнай каштоўнасцю ягонай лірыкі становіцца незвычайная, проста адчувальная на дотык пачуццёвасць прадстаўленага свету, да якога імкнецца кожны паэт, хаця не кожнаму яна дадзена ў творчым здзяйсненні.

Паэт шукае сімвалаў у тым, што буднае і звычайнае, а вечнасці — у тым, што разбітае і з выгляду нецікавае. Сімвалы і знакі заўважае ён у дрэвах, ветры і вандроўных воблаках, у паэтычнай геаграфіі чалавечага лёсу. Паэтычнае ўяўленне Алеся Барскага будуе свет з крохкай структурай. Спадарожнічае яму свядомасць і фобія праміпання. Гэтыя адчуванні напластоўваюцца на чыста сімвалічную літаратурную карціну, якая заадно з'яўляецца экзістэнцыяльным вобразам. У гэтым працэсе ўзнікання і паміранні лакалізаваны герой вершаў Алеся Барскага, у якога псіхіцы можам наглядаць так характэрныя для паэтычнага свету гэтага аўтара раздвоенасць і дыяпазон паміж крайнасцямі. Вылучаецца ён значнай двоістасцю, якая безупынна адлюстроўваецца ў лейтматыўна вяртаючыхся апазіцыях: яснасць — змрок, жыццё — смерць, паверхня — глыбіня, радасць — сум, выдуманая прычыны — сэнс быцця. Радок па радку паэт яднае разбіты свет. Стараецца вырашыць загадку быцця, пранікнуць адвечную тайну, якая не расколвае, але аб'ядноўвае ўсе элементы нібыта супярэчныя ў жыцці і ўспрыманні свету чалавекам.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Сустрэча ў Старым Корніне



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Напярэдадні свят**

Заўсёды, калі набліжаюцца веснавыя святы — Вербніца, Вялікдзень, Провады мы прысвячаем ім урокі — кажа **Васіль Сегень**, настаўнік беларускай мовы ў Старым Корніне.

— Дзеці распытваюць сваіх бабуль пра мясцовыя традыцыі і звычаі. Я таксама рыхтую ім даклад пра веснавую абраднасць Палесся, паводле запісаў Оскара Кольберга з XIX стагоддзя. І калі параўноўваем, бачым колькі ў нас супольнага. Узнікае духовая сувязь. Ладзім таксама перад Радаўніцай экскурсію на могільнік. Такія тэмы ўзбуджаюць зацікаўленне нашымі каранямі, — кажа Васіль Сегень.

**Школа была заўсёды**

У Старым Корніне слаўная на ўсю Беласточчыну царква св. Ганны. Побач святыні знаходзіцца школа. Існуе яна з 1906 г.

— У 1972-73 гадах, калі я стала дырэктарам, — успамінае **Вера Баравік**, — у школе было 106 дзетак, сярод іх 23 васьмікласнікі. А зараз у найстарэйшым класе толькі чатыры асобы. Уся школа налічвае 48 навучэнцаў. Апрача мясцовых у Старым Корніне вучацца дзеці з Ягаднік і Карыціск.

— У нас прынята, што ўсе вывучаюць беларускую мову, — кажа дырэктар школы. — Дзеці ўдзельнічаюць ва ўсіх беларускіх конкурсах.

Сярод выпускнікоў школы ёсць настаўнікі (між іншым і беларускай мовы), юрысты, вайскоўцы, святары, лекары, выдатныя гаспадары.

**Беларускія конкурсы**

Вучні са Старога Корніна ўдзельнічаюць ва ўсіх беларускіх конкурсах. Нядаўна выступалі на тэатральным аглядзе ў Кляшчэлях і занялі там трэцяе месца. Ася Гаўрылюк з VI кл. атрымала спецыяльную ўзнагароду для найлепшага акцёра.

— П'есу рыхтавалі сямікласнікі і васьмікласнікі, — паясняе В. Сегень, — а Ася як таленавітая дэкламатарка нам дапамагала.

Варта згадаць і пра мінулагодня поспехі корнінскіх вучняў. Сярод дэкламатараў былі лаўрэаты: Агнешка Галімская, Эва Аксянцюк і Аня Сурэль. Зараз дзяўчаты вучацца ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. У Гайнаўскі белліцэй збіраецца таксама сёлетняя дэкламатарка і энтузіястка беларускіх конкурсаў **Марыля Аксянцюк**.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

## *Новыя вершы Агнешкі Х.*

**Часціны...**

Праўда ў кожнага іншая.
Іх нямала.
Яны звычайныя і незвычайныя.
Не злічыць.
І белыя.
І зялёныя.
І чырвоныя.
Мігцяць.

Разважаюцца.
Паддаюць.
Непакояць...
Маўчаць нельга, глядзець нельга.

Сцеражыся, бо яны чалавечыя!

**Маленькая жанчына**

Пасля яна прыйшла,
зламіла адказ,
павольна знайшла значэнне,
наведала музей думак,
адлюстравала пачуцці
упэўнена,
што інакш цяпер глядзіць.

**Меркаванне**

Чамусьці ўяўлялася
падобнае да веры
увайшло ў сэрца
светлым незабыўным вобразам

здзіўленае азірнулася
пазнала самадзейнасць
вельмі разгубілася

верачы сваім вачам

паставіла магілу

## *Вясёлы куточак*

— Кім, Марк, будзеш, калі вырасцеш? — пытае цёця.

— Спярша буду лекарам, бо так хоча мама. Пасля буду адвакатам, бо так хоча тата. А наканец стану пажарнікам, бо гэта мая мара.

* * *

Унучак прыносіць бабулі букет прыгожых кветак.

— Ты зусім непатрэбна растраціў грошы на гэты прыгожы букет, — цёпла папракае бабуля ўнука. — Такія прыгожыя кветачкі растуць і ў маім агародзе!

— Раслі, бабулька, раслі.

* * *

— Гэтую дамашнюю працу напэўна напісаў табе бацька, — папракае вучня настаўнік, — пазнаю гэта па змене стылю... Што скажаш на сваё апраўданне?

— Бо мама выехала ў санаторый...

* * *

— Колькі будзе чатыры і пяць? — пытае бацька сына.

— Дзесяць.

— Ты памыліўся; падумай яшчэ...

— Восем.

— Ты зноў памыліўся. Чатыры і пяць будзе дзевяць.

— А цяпер ты, татка, памыліўся, бо ў школе мяне вучылі, што дзевяць — гэта шэсць і тры!

* * *

— Скажы, Марк, што далей ад нас: Месяц ці Кітай? — пытае вучня настаўнік геаграфіі.

— Вядома, Кітай.

— А чаму так думаеш?

— Бо Месяц відаць, а Кітай не.

* * *

Бацька даў сыну грошы, каб той пайшоў на пошту, купіў марку, наклеіў яе на ліст і ўкінуў у паштовую скрынку. Пасля вяртання сына дадому бацька пытае:

— Зрабіў так, як я табе гаварыў?

— Зрабіў нават яшчэ лепш!

— Як гэта?

— Пабачыў, што ніхто за скрынкаю не наглядае, і бясплатна ўкінуў у яе ліст.

**Даслаў Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# Бабры

Каля маёй вёскі Падрэчаны цячэ рака Локніца. Гэтая рэчка скрывае ў сабе многа таемнага.

Некалькі год назад у нас пасяліліся бабры. Яны вядуцца ў самых глухіх месцах. Летам, калі вада ў рацэ апускаецца, бабры робяць вялікія плаціны з галінак злепленых балотам. Цераз такую плаціну не працякае вада. Бабры ўмеюць зубамі валіць вялікія дрэвы, якія таксама выкарыстоўваюць на пабудову плацін і жылля.

У мінулым годзе восенню мне пашчасціла пабачыць бабра. Гэта вельмі прыгожы звярок, поўсць у яго гладкая і бліскучая. Бабры знаходзяцца пад аховай.

**Аліна СІРОЦКАЯ, ПШ у Чыжах**

# Мікола Гусоўскі



*Мал. Пятра ДЗЕМЯНЮКА*

Жыў ён пяцьсот гадоў назад. Напісаў паэму „Песня пра зубра". Расказваецца ў ёй пра нашу прыгожую зямлю „пад зоркай Палярнай", пра нашых мужных, працавітых продкаў, якімі ён захапляўся і ганарыўся.

Менавіта між такіх людзей гадаваўся маленькі Мікола — сын палясоўшчыка-паляўнічага. А вось, дзе нарадзіўся, пра гэта ніхто дакладна не ведае. І ўсё ж няцяжка здагадацца, што яго радзіма — Магілёўшчына, лясны прыдняпроўскі край. Нездарма аўтар „Песні пра зубра" адзначае: „Рэкі лясныя, Дняпра паўнаводнага строму. Пераплываў я з канём у пагоні за зверам. Быў і адважны, а дзе і неразважны, казалі. Як ні было — не забыць сваю школу Міколу".

Школу мужнасці і адвагі прайшоў ён у свайго бацькі. А калі падрос, вучыўся ў другой школе. У якой? Давайце глянем на карту Беларусі і знойдзем на ёй сіненькую нітачку Дняпра. Бачыце: не злічыць шматлікіх гарадоў і вёсак абапал гэтай ракі, як і невялікіх рэк і рачулак, што ўпадаюць у Днепр. Сярод іх — Бася і Проня. А ў верхнім цячэнні гэтых рачулак — вёсачка Зубры. Пэўна ж, вельмі старажытная, калі носіць такую назву. Відаць, і тут, у навакольных лясах, як цяпер у Белавежскай пушчы, вадзіўся калісьці зубр — магутны волат-звер, услаўлены Міколам Гусоўскім. А калі так, магчыма, у гэтай самай вёсачцы і была некалі школа, куды хадзіў вучыцца маленькі Мікола. „Свет даўніны вывучаў я па кнігах славянскіх, граматах рускіх, кірыліцай пісаных вясках".

Можа і застаўся б Мікола Гусоўскі жыць у бацькоўскай леснічоўцы, калі б не прага да навукі. Спачатку ён трапіў у Вільню. Потым, ужо юнаком, вучыўся ў Польшчы ў Кракаве, скончыў у Італіі Балонскі універсітэт. І стаў чалавекам высокай культуры, славутым паэтам, вядомым грамадскім дзеячам. Некаторы час выконваў у Рыме адказную пасольскую місію.

„Песня пра зубра", напісаная далёка ад радзімы, стала гімнам бацькаўшчыне, характву яе прыроды. Зубр у паэме — гэта паэтычны вобраз роднага краю, сімвал яго магутнасці.

За пяць стагоддзяў „Песня пра зубра" выдавалася на розных мовах. У Беларусі была надрукавана адразу на трох: на лацінскай мове, на якой пісаў Мікола Гусоўскі, на беларускай і на рускай. Аўтар „Песні пра зубра" парадніў нас з усім светам.

# Польска-беларуская крыжаванка № 15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Mgla | Jedlina | ▼ | II / Bug | ▶ | | Wanna | Kolega |
| Jamb ▶ / Klamca | ▼ | | ▼ | Nuda | 📖 | ▼ | ▼ |
| ▶ | | | | ▼ | Nóż | | |
| Klam-czuch ▶ | | | | | ▼ | | |
| ▶ | | | Don ▶ | | | | |
| Ona | | Pożar ▶ | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 11:**

Вяз, тур, ар, рэпа, намёк, сабака, бог, ронда, паднос, магнат, яр, сорам, нагода, раб, тэма, Дон, уцёк, аса, рака.

Узнагароды, **наборы канвертаў**, выйгралі: **Анна Камар** з Кленік, **Марцін Мялешка** з Катоўкі, **Ева Зубрыцкая**, **Дыяна Яканюк**, **Ян Каліноўскі** з Нарвы, **Марта Кучынская** з Плёскаў, **Анджэліка Сельвясюк** і **Марта Пухальская** з Бельска-Падляшскага.

**Віншуем!**

# *Песня пра зубра*

Ярасць зуброў і ў шаленстве не роўная; часта
Вострага зроку і ранены нават не траціць,
Мабыць, у памяці многім нядаўні выпадак —
Зноў-такі ў нашых лясах — з каралём Аляксандрам.
Тое няшчасце, калі б не Ўсявышняга літасць
Ў горкіх слязах утапіла б усё каралеўства.
Двор выязджаў на аблаву, і ў пушчы заранеі
Рубшчыкі ўсё як належыць зрабілі: на палях —
Тоўстых апорах — памост збудавалі ў тры сажні.
Лесвіца збоку, чатыры падпоры, як трэба.
Так што пакорліва просім вас, ваша вялікасць,
Там і сядайце, глядзіце, як пойдзе аблава.
Першаю села ў кампаніі фрэйлін і знаці
Ў строях сваіх аксамітных сама каралева.
Побач з памостам, на доле, на сейміку шумным
Панства сышлося, а воддаль, як быццам на шпацыр
Моладзь сабралася. Пеўнікі тыя згаралі
Ад нецярплівасці спрыт праявіць і геройства
Тут на вачах у паненак, у бойцы са зверам.
Блазан-амур, неразумны бажок заляцання,
Віўся на крыльцах між дрэваў і з лука раз-пораз
Пырскаў стралой у дзявочыя сэрцы. Паслухай
Ты, матылёк бескалпотны: сваволь, забаўляйся
Дзе сабе хочаш, ды толькі не тут, дураслівец!
Пушча — не сад і альтанка. У ёй закаханы
Мілы юнак, што не ведае нораваў звера,
Толькі ж жадання каханай прыйсціся пад нораў
Зробіць свой рыцарскі выбрык — і тут жа загіне,
Ўсё праз цябе ці праз тую абранніцу сэрца!
Чутна — звяры тупацяць. Прамільгнулі сабакі:
Гоняць зуброў. Анямела, прыўзняўшыся з месца,
Світа вяльможная. Ахнулі там, на памосце.
Сонечны дзень быў. Пярэстасць багатых убораў
Аж зіхацела ў праменні, барвовыя суткі
З вышыўкай срэбрам і золатам проста сляпілі.
Выскачыў першы важак. Натапырыўся. Раптам
Аж скалануўся, убачыўшы яркую чырвань.
Голаў панурыў, працяў спадылба ўзвышэнне —
Войкнуў памост і закрыўся рукамі ад жаху.
Я не сказаў бы, што сцэнай такой любавацца
Нам, хто не ўладны над злосцю жывёльнай, прыемна.
Крык заганятых усё набліжаўся, і гэта
Звера прымусіла бегчы, бо побач дубровай
Наўскач ляцелі чароды зубрыц і аблеткаў
Проста на лоўчых, але па такіх не стралялі.
З рыкам, нібы ашалелы, узбег на паляну
Зубр велізарны, скрываўлены. З раны на шыі
Пырскала кроў — у загрыўку трымаліся коп'і.
Ён іх страсаў і, закінуўшы голаў, угледзеў
Баль-маскарад на памосце. Суняўся і чмыхнуў,
Злосна ўтаропіўся, быццам ён там выпадкова
Ўбачыў знаёмыя твары і сіліўся ўспомніць,
Дзе сустракаў іх. Дзень добры, вяльможнае панства!
Смерцю маёй любавацца сышліся? Чакайце ж,
Я пакажу вам забойства — вякі не забудуць!
З храпам набраўшы паветра, разявіўшы пашчу,
Рыкам усіх аглушыў, скалануў наваколле.
(Рык важака для зубрынага статка — трывога).
Значыць, сваіх папярэдзіў, цяпер — за расправу.
З месца сарваўся падскокам. З разгону рагамі
Грымнуў у палю памоста — і збіў з падваліны.
Зверху прарэзлівы лямант. Памост пахіснуўся,
Трэснуў і цудам не ўпаў без чацвёртай апоры.
Бог барані, калі б ён і другі раз ударыў.
Збіў бы памост, і якою б умыўся крывёю
Дол той пушчанскі і рогі крутыя забойцы —
Сэрца заходзіцца, дрыжыкі б'юць уяўленне.
Што гаварыць, замясіў бы пірог каралеўству
З княства й Кароны сваёю мясістаю мордай.

*(Песня пра зубра. Пер. Язэп Семяжон.)*

# Міфы старой Беларусі

**25. Лада**

Лада — бацька багоў. Ён сцеражэ парадак на зямлі. Гэта дзякуючы яму пасля дня наступае ноч, пасля зімы — лета. Усе дзеянні прыроды аб'яднаныя ў крузе Лада. Святкаванні ў гонар гэтага бога беларусы ладзілі ў час сонечнага пералому — самыя магічныя хвіліны Ладавага круга. Яшчэ і сёння чуем сляды гэтага павер'я ў словазлучэннях *круглы год* або *круглы дзень*.

**26. Марэна (Мажанна)**

Старажытныя беларусы палілі Марэну на Радаўніцу (сённяшнія Провады). Марэна — увасабленне смерці, што панавала разам з маразамі ўсю зіму над зямлёй. Чучала Марэны рабілі з саломы, адзявалі як бабу і тапілі ў першай за вёскай лужыне. Гэтым чынам старажытныя развітваліся з зімой і адначасова заклікалі Ладаву дачку Лялю (багіню вясны), каб панавала над светам.



Талон „Зоркі" № 15
12.04.1998

# У Козліках „дзекаюць” дружна




Адышоўшы на пенсію, Люба Гаўрылюк з мужам пасяліліся ў „хаце Багатыровічаў”: менавіта ў гэтай хаце ў Козліках у 1985 годзе здымаўся фільм паводле аповесці Элізы Ажэшка „Над Нёманам”. Хто бачыў гэты фільм, можа ўявіць сабе іх прасторную, светлую хату.

Шкада, што і я не змагла паглядзець яе. Было цёмна і мокра, калі я прыехала ў Козлікі, а рэпетыцыя калектыву „Рэчанька” якраз адбывалася ў святліцы, а не ў Любінай хаце.

* * *

Мясцовыя гаспадыні дзівіліся: што гэта за жанчына ўсё ходзіць на прыпынак? А гэта Люба Гаўрылюк ездзіла ў Беласток на рэпетыцыі беластоцкага хору. Не ведалі пра гэта бабы, але хутка даведаліся, што яна спявае, бо пачала і тутэйшых жанчын арганізаваць. Ходзіць баба па хатах, кажа Геня Стэпанюк, ды людзей намаўляе спяваць.

Да Лены Каменскай Люба прыйшла ўжо з Зінай Сакалоўскай. Уваходзяць яны, успамінае Лена, а я сама зацірку замінаю. Ну, дык я яе кінула і іду да іх.

Сабраліся хутка, ужо на другі дзень. Прыйшлі раз, паспявалі, расказвае далей сп. Геня, ідзем аддаваць Любе карткі з песнямі, што яна нам параздавала. Не будзем хадзіць! Спяваць? Дзе, калі? Тут трэба на гаспадарцы рабіць, мы ж запрацаваныя вясковыя бабы. Паедзем кудысьці?! Што вы...

А Люба нам — чаёк. Як выпілі чай, пакідаем ёй песні, а яна не здаецца: бярыце, бярыце... Ну, і забралі мы тыя карткі.

Ізноў сустрэліся, а Люба паказвае, які нам матэрыял на спадніцы ў Беластоку набрала, перад мужыком таячыся. Вядома, столькі грошай!

Гэля Леанчук з Сольнікаў была якраз у Заблудаве, калі сустрэла Тамару Каменскую. Пытаюся, расказвае яна, як спяваецца? А яна мне: ведаеце, мы хочам яшчэ вас уцягнуць. Я ёй, што ўжо я старая, з другой вёскі. А яна: добра, добра, у царкве спяваеце, то і ў нас будзеце спяваць! І аднойчы з царквы Бася Трусюк узяла мяне і завезла ў Козлікі на рэпетыцыю.

Спадабалася мне там, але ж кажу, што мужык не пусціць. Дык яны — у Сольнікі. Мужык глядзіць, а ў дзвярах Люба спявае ды яшчэ прытупвае. І згадзіўся, хаця ён як солтыс мае шмат працы, а я ж яшчэ старшыня гуртка вясковых гаспадынь.

А пасля сустрэла я Элю Залеўскую. Яна — каталічка, але беларуска, дык ахвотна прыйшла ў хор, хаця жыве на калёніі Сольнікі.

А ў Тэрэсы Рагуцкай агарод мяжуе з Любіным. Якраз мой муж, успамінае Тэрэса, быў у агародзе і пачуў, як спяваюць Любіны дочкі Ала і Бася. Прыбег у хату ды кажа мне: ідзі на агарод і паслухай, як яны спяваюць! Я пайшла, паслухала і пачала спяваць у калектыве. Цяпер сябруем з Любай.

А Раіса Фрэйда, напрыклад, даязджае на рэпетыцыі пяць кіламетраў з Заблудава. Часамі яе прывозіць дачка, а часта яна ідзе пехатой. Мы кажам ёй: пераначуй! — жанчыны нервуюцца. А яна: не, дачка мяне забярэ. А пасля, бачым, — ідзе адна поначы.

* * *

Як Люба нас першы раз везла на Варшаўскую, — Геня Стэпанюк расказвае вельмі наглядна, — дык мы лічылі, што адно мы будзем спяваць. Думалі, што сэрца выскачыць з грудзей. А там — людзей поўна ў касцюмах. І мы сабе касцюмы самі зрабілі.

Тамара пашыла нам блузкі, растлумачыла Люба Гаўрылюк. Я спачатку пашыла адзін касцюм. Усім ён спадабаўся, дык вырашылі пашыць такія касцюмы для кожнай з нас. Кабеты прынеслі да мяне тры швейныя машыны і за два тыдні мы пашылі ўсе строі. Сэрдакі абшывалі ўсе разам.

А пасля Люба надумалася зрабіць у Козліках „Сільвестра”. Геня: Першы раз у жыцці была я на „Сільвестра” ў Любінай хаце. Сустракалі там новы, дзевяноста шосты год.

Люба: У хаце якраз капітальны рамонт. Усё было развалена, печкі, сцены, вырвана падлога... Каб зрабіць „Сільвестра”, на якім тут яшчэ ніхто ніколі не быў, прыйшлі мужыкі з вёскі, мужы тых жанчын, што спявалі. Усё-усё зрабілі. А такі быў баль! У адным пакоі частаваліся, у другім — танцавалі.

„Хрысціны” калектыву, які спяваў ад кастрычніка дзевяноста чацвёртага года, адбыліся 27 ліпеня мінулага года. Назвалі яго „Рэчанькай”.

* * *

Святліца ў Козліках, якія ляжаць на крутым павароце ў палове дарогі з Беластока ў Бельск, знаходзіцца ў будынку былой вясковай школы.

Сёння з трыццаці васьмі хат з калёніямі ўсяго васьмёра дзетак з Козлікаў ходзяць у падставовую школу ў Заблудаў, а ў былой невялічкай школцы, дзе палову будынка займала кватэра настаўніка, а ў другой дзеці вучыліся — цяпер святліца.

Калі мясцовыя кабеткі аб'ядналіся ў мастацкі калектыў, прывялі святліцу ў парадак. Самі абклеілі сцены шпалерамі, купілі цырату, якой пазасцілалі сталы. Хоць мне іхняя залка здалася зусім невялічкай, яны кажуць, што тут свабодна гуляе пяцьдзесят чалавек.

Цяпер мы заўсёды разам, а людзі вакол нас, хваляцца жанчыны, што прыйшлі ў святліцу на рэпетыцыю і расказваюць мне пра тое, што дзеецца ў іх вёсцы, адна перад другой.

Сёння ў калектыве адзінаццаць асоб. Узрост — ад 24-х да 62-х гадоў. Адна настаўніца, адна краўчыха, астатнія — сялянкі, ну, і Люба ды Ала.

Пачала ўсё Люба, а цяпер яе дачка Ала Дубец не толькі акампаніруе ім на акардэоне, але і кіруе. Яна ноты ведае, кажа Люба, вучыць умее, а я што... Арганізаваць я магу, але ж я спяваю і вучу спяваць толькі са слыху. Трэба спяваць, вядома, што людзі, якія спяваюць, яны лепшыя...

* * *

Таму, хто бачыў на сцэне самадзейную спявачку Любу Гаўрылюк, заўсёды вясёлую, прыгожую, заліхвацкую, цяжка было б зразумець, што песня гэта было, магчыма, месца яе ўцёкаў ад цяжкой фізічнай працы, якую яна мусіла выконваць дзеля хлеба. Песня заўсёды ажыўляла яе душу, напаўняла яе сэнсам існавання.

Адкуль бярэцца ў гэтага чалавека столькі радасці жыцця... У роднай Трасцянцы, дзе жылі яны на хутары Ставок, было іх, дзяцей, сямёра. Немцы хату спалілі, а прытуліў іх бацюшка ў Стаўку, хату якога немцы пакінулі, прызначаючы яе на лазарэт. У той хаце жыло тады пяць сямей, усіх іх немцы таксама спалілі, як і хату Любіных бацькоў.

Вядома, пасля вайны бацькі пабудавалі новую хату, і Люба жыла там аж да 1964 года, пакуль не пераехала ў Беласток.

Люба сябе ніколі не шкадавала. Калі працавала ў бібліятэцы ў Трасцянцы, дык мела найбольш чытачоў у Гайнаўскім павеце — аж 360 асоб! Бывала, кніжак у сумку набярэ і па людзях разносіць. Хай стары і хворы пачытае.

Спявала ўжо там, у Трасцянцы, а пасля яе мілагучны голас радаваў беластачан. Яна і беластоцкі хор заснавала ў сваёй хаце. Толькі пасля ўжо нас узяў Копа, кажа Люба.

А цяпер вось ізноў: запрасіла ў хату — і ёсць другі калектыў. Жанчыны праводзяць сёння рэпетыцыю ў святліцы. Спачатку спяваюць ужо вядомыя ім песні, з якімі выступалі і на аглядах беларускай песні ў Беластоку, і на фэстынах, і ў Нарве на аглядзе абрадных калектываў, і ў Белавежы на Купаллі, на дажынках у Рыбалах і Заблудаве, у Рафалоўцы — для ветэранаў і пенсіянераў, і ў ноч Купалы ў Рыбалах... А пасля развучваюць новыя песні, быццам крыху саромячыся.

* * *

Неўгамонная Люба са сваім мужам, адрамантаваўшы сваю хату, адаптавала на хату таксама свіронак. Рабілі дагэтуль „фоліі”, ёсць свінні, кролікі, куры. Курэй купілі, забіць я іх хацела, кажа Люба, паставіла ў „фолію”, а яны несціся пачалі, дык я іх і пакінула.

Ужо яны прыжыліся ў гэтай вёсцы. Усе ім тут — быццам свае. І ўсе „дзекаюць” дружна па-беларуску, хаця жывуць тут праваслаўныя і католікі. Святы святкуюць адны і другія, ходзяць суседзі да суседзяў у госці.

І ў калектыве — сімбіёз поўны. Спяваюць жа перш за ўсё родныя, беларускія песні.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# „Арэшкі” перад юбілеем

„Арэшкі” — вакальны і тэатральны калектыў з Арэшкава Гайнаўскай гміны. Апрача таго, што спявае, то яшчэ ставіць на сцэне перш за ўсё народныя абрады. У пачатку 1999 года ён будзе святкаваць 25-годдзе свайго існавання.

— Усё ў нас пачалося ад прыезду Аляксандра Лукашука з Гайнаўкі, — гаворыць Ніна Аўярчук. — Ён займаўся збіраннем абрадавых песень, між іншым вясельных, жніўных, хрысцінных ды вясенніх „агулек”, якія адыходзяць ужо ў забыццё. Наша супрацоўніцтва працягвалася пару гадоў. Пасля прыязджаў інструктар ГП БГКТ з Беластока Янка Крупа. Ён арганізаваў у нас тэатр.

„Арэшкамі” калектыў назваўся 20 чэрвеня 1976 года. Падчас „хрэсьбінаў” выступілі яны на сцэне з „Вячарынкай”. Потым ставілі „Каравайніц” і „Пакудзелле”. Найвялікшай іх рэпертуарнай скарбніцай — мясцовы фальклор.

І так раслі „Арэшкі”, як на дражджах, развіваліся і ўсё ўзбагачвалі свой рэпертуар. Пачалі самі рыхтаваць сцэнкі з жыцця вёскі, прыпраўленыя песнямі, прыпеўкамі ды анекдотамі. На рэпетыцыі прыходзілі жанчыны з усіх сямі параскіданых вакол Арэшкава прысёлкаў.

У студзені 1994 года фальклорны песенны калектыў „Арэшкі” святкаваў 20-годдзе сваёй мастацкай дзейнасці. Да тае пары выступіў са звыш 100 канцэртамі. Усе яны былі цёпла ўспрыняты гледачамі.

„Арэшкі” спрычыніліся да спапулярызавання шматлікіх народных беларускіх і ўкраінскіх песень. Ахвотна супрацоўнічаюць з „Тыневічанкамі” з Тыневіч-Вялікіх (Нарваўская гміна).

Сёлета вакальны калектыў „Арэшкі” заняў другое месца ў катэгорыі аўтэнтычнай фальклорнай песні на V Фестывалі „Беларуская песня '98”.

**(гай)**

# Шчупак з Семяноўскага вадасховішча

**Можна смела сказаць, што Семяноўскае вадасховішча багатае шчупакамі. Гэтая драпежная рыба выступае па ўсім аквене, але найбольшыя экземпляры водзяцца ў глыбокіх месцах. Міхал ТХАРЭЎСКІ з Орлі злавіў тут амаль 10-кілаграмавага шчупака.**



— На рыбалку езджу ўжо амаль паўвека, — расказвае Міхал Тхарэўскі. — Першую вудачку зрабіў мне, дзесяцігадоваму хлапчуку, дзед Пятро з арэшыны і конскага воласу. Спачатку лавіў я ў Арлянцы, а потым услед за старэйшымі рыбакамі ездзіў роварам на Нарву — пад Плёскі або Страблю.

Першага шчупака на Семяноўскім вадасховішчы злавіў я некалькі гадоў таму, калі ўпершыню прыехалі мы сюды з Міхалам Стальмашуком. З таго часу гэты вадаём стаў маім улюбёным месцам для рыбалкі, хаця аддалены ён ад Орлі на 105 кіламетраў. Тут найчасцей я праводжу свабодны час і тут злавіў рэкорднага шчупака.

Было гэта ў верасні мінулага года. Стаяла дрэннае надвор'е, рыбакоў было мала. Адплыў я пантонам некалькі соцень метраў ад берага. Пасля гадзіны трапіліся мне два шчупакі па паўтары кілаграма. Потым пераплыў я ў іншае месца і там нешта вялікае клюнула. Дазволіў я рыбе адплысці на 30 метраў і затым пачаў цягнуць лёску да сябе. Пасля дваццацімінутнага змагання ў адлегласці 15 метраў ад пантона згледзеў я шчупака. Да гэтай пары я думаў, што на кручок папаўся сом. У гэты момант галоўнай справай было не дапусціць, каб рыба сышла на дно. Шчупак не здаваўся, некалькі разоў абярнуў мой пантон, цягнуў так моцна, што плыў я быццам на маторнай лодцы. Змаганне працягвалася гадзіну. Сталі балець рукі, урэшце стаміліся мы абое і за чацвёртым разам удалося зацягнуць шчупака ў лодку. Якраз узняўся моцны вецер і я хутка накіраваўся да ледзь прыкметнага берага. Аказалася, што шчупак важыў амаль 10 кг і мерыў 105 см.

Шчупакоў можна лавіць дзесяць месяцаў у годзе — з мая да канца лютага. Мяркую, што ў Семяноўскім вадасховішчы водзяцца яшчэ большыя шчупакі, бо гэтага злавіў я лёскай таўшчынёю 0,28 мм, а здаралася, што рваліся мне лёскі 0,40 мм. Мой велікан быў галодны, бо страўнік у яго быў пусты. Мяса смакавала як адбіўная катлета і наелася ім уся мая сям'я.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Нашы карані

**CXVIII. Два браты — два пакутнікі**

Часы шляхецкай анархіі ў Рэчы Паспалітай былі асабліва цяжкімі для праваслаўя. Нярэдка здаралася так, што кароль і дзяржаўныя ўлады былі прыхільнымі Царкве, нават намагаліся яе абараняць ці рабіць нешта прыхільнае ў карысць ёй. Аднак нічога не змаглі ўчыніць з-за супраціву, самаўпраўства шляхты, уніяцкай іерархіі і свайго бяссілля.

Гэтак было калі пасля смерці караля Аўгуста II Моцнага на трон узышоў яго сын Аўгуст III. Сваю каралеўскую карону ён здабыў дзякуючы моцнай падтрымцы Расіі, яе арміі. Удзячны за тое, кароль намагаўся зрабіць нешта прыемнае царыцы Ганне Іванаўне, і на каранацыйным сейме ў 1734 годзе абавязаўся аднавіць усе ранейшыя правы праваслаўнай Царквы, узяць яе пад сваю апеку. Праз год ён пацвердзіў ранейшую прывілею на дзейнасць праваслаўнай Беларускай кафедры ў Магілёве і правы праваслаўных манастыроў. Яшчэ праз год абяцаў назначыць спецыяльную камісію для разгляду ўсіх спраў, у тым і скаргаў праваслаўнай Царквы. На жаль, усе гэтыя каралеўскія абавязацельствы, пацвярджэнні ды абяцанні засталіся пустымі словамі, бо нічога не было зроблена.

У 1732 годзе на Беларускую епіскапскую кафедру быў выбраны і пасвечаны ігумен кіеўскага Свята-Мікалаеўскага манастыра Іосіф Вайчанскі. Ён з вялікай надзеяй прыступіў да свае архіпастырскай дзейнасці, спадзеючыся па абяцаннях караля паправы гаротнага палажэння Царквы ў Рэчы Паспалітай. Аднак вельмі хутка расчараваўся ў сваіх спадзяваннях, хаця і рабіў усё магчымае і немагчымае, каб ратаваць Царкву. Пасля некалькіх гадоў сваё пастырскай службы, ён у згрызотах і болю пісаў Сіноду Расійскай Царквы, што апрача тых храмаў, якія уніяты забралі ў праваслаўных ад пачатку XVIII стагоддзя, яшчэ *гвалтам захоплены на унію ў нядаўні час многія цэрквы, а новых будаваць не дазваляюць, з-за таго рэштка той Беларускай епархіі ўся адыдзе да уніі і праваслаўнага епіскапа нінавошта і не на чым будзе ўтрымліваць.* Пакуты праваслаўнага пастыра, на вачах якога пражэрлівыя ваўкі даядалі рэштку яго статку, не цяжка ўявіць. І ён у глыбокім смутку, хворы ад таго, што нічога не можа зрабіць на карысць гінучай Царквы, пасля 10-гадовай службы на Беларускай кафедры выехаў у 1742 годзе ў Расію.

Пасля ад'езду ўладыкі Іосіфа ў тым жа годзе архіпастырскага подзвігу падняўся яго родны брат архімандрыт Свята-Духавага манастыра ў Вільні Іеранім Вайчанскі. Але і яму архірэйскае паслушанне з першага дня пасля пасвячэння стала пакутным шляхам. Кароль Аўгуст III два гады не хацеў зацвердзіць яго на кафедры. На гэтыя здзекі расійская імператрыца Елізавета Пятроўна накіравала каралю вельмі вострае пасланне, у якім сцвярджала, што такога праследавання праваслаўных, як у Рэчы Паспалітай, не дапускаюць нават туркі і пагражала разарваць мір з Польшчай. На тое уніяцкі мітрапаліт заўважыў, што праваслаўныя — гэта дзяржаўныя здраднікі, якіх трэба караць смерцю, бо яны звяртаюцца са сваімі справамі ў чужыя краіны, а не ў свае суды. Усё ж кароль зацвердзіў уладыку Іераніма, а калі ён прыбыў у Магілёў, то не ведаў за што брацца, бо ўсё было ў поўным заняпадзе, а уніяты не суніміліся праследаваць яго і ўсіх праваслаўных. Толькі за адзін 1745 год яны захапілі 30 цэркваў. Пасля 10 гадоў пакутнай службы ўладыка Іеранім памёр з гора. На вестку пра яго смерць папа Бэнэдыкт XIV патрабаваў ад караля ліквідаваць „схізматычную кафедру" ў Магілёве і аддаць яе полацкаму уніяцкаму архіепіскапу, але кароль не адважыўся гэтага зрабіць, пабаяўшыся Расіі.

**Мікола Гайдук**

# Трэба задумацца

Прыйшла вясна. Не аглянемся, калі падыдзе лета і канікулы. Са школ вернецца ў Чаромху моладзь — чым жа яна тут будзе займацца?

Як вядома, адзіным месцам гульні з'яўляецца ў нас асяродак культуры, дзе час ад часу ладзяцца дыскатэкі і танцавальныя вечарыны (г.зв. забавы). А чым пазаймацца ў сонечную нядзелю?

Можна паехаць над заліў у Дубічы-Царкоўныя ці Семяноўку, або пакупацца ў кляшчэлеўскім басейне. Не ў кожнага аднак свой транспарт, каб туды зручна даехаць. А вось, што сказаў мне чаромхаўскі радны Анатоль Жук.

— На адной сесіі Гміннай рады прапанаваў я арганізаваць купальны басейн і ў Чаромсе. Можна дзеля гэтага выкарыстаць старую сажалку на рэчцы Нурэц (каля разбуранай пампоўні). Хопіць дамовіцца з чыгункай наконт арэнды і крышку абдумаць справу. Не патрабуецца тут вялікіх фінансавых сродкаў. Мае калегі не адобрылі гэтай прапановы. Адны гаварылі, што лепш нешта ў школе зрабіць, а іншыя, што ў гміне няма пільнейшых за басейн спраў. Мне аднак здаецца, што купальны басейн у Чаромсе ўсё-такі патрэбны. Варта над гэтым задумацца.

**(ус)**

# Святло для беларускага Падляшша

19 студзеня 1998 г. варшаўскае радыё БІС транслявала праваслаўнае набажэнства з архікафедры св. Марыі Магдаліны ў рамках экуменічнага тыдня малітвы.

Адбывалася гэта з благаславеннем мітрапаліта і паказвае дарогу для ўвядзення беларускай мовы ў царкоўны ўжытак на Беласточчыне, а тым самым узмацненне сваёй этнічнай (нацыянальнай) свядомасці тамашніх беларусаў.

Галоўны намер быў такі: спяваць усе гімны на царкоўнаславянскай мове, бо яны яшчэ не перакладзены і дастасаваны да нотных партытур з адзіным выключэннем: у екцяніях хор адказвае не славянскім „Господі помілуй" а грэчаскім „Кіріе элейсан".

Была гэта вялікая вячэрня. На польскай мове служыліся вялікая, малая і сугубая екцяніі. Чыталіся „Святый Божэ", „Апостол", „Евангелле" і одпуст. Увесь народ прачытаў „Ойча наш". Спяваў хор студэнтаў духоўнай семінарыі ды хрысціянскай тэалагічнай акадэміі пад кіраўніцтвам доктара Валасюка.

Хтось тут спытае: адкуль узяць беларускія тэксты? Мінская мітраполія выдала „Літургікон" на беларускай мове (добры пераклад). Яго можа перадрукаваць „ORTHDRUK" у Беластоку.

Новы Запавет (для Апостала і Евангелля) даўным-даўно выдала Брытанскае і замежнае біблейскае таварыства (у Варшаве, вул. Новы Свят 40). Я яго меў у руках, а прафесар Адам Сталёны-Дабжанскі распаўсюдзіў на Падляшшы якіх 30 экземпляраў (зялёная вокладка).

Што тычыцца грэчаскай мовы, то яна экуменічная сама сабой, бо доўгі час лацінская мова лічылася варварскай нат у Рыме, бо яшчэ імператар Нерон дэкламаваў свае вершы па-грэчаску, гледзячы на палымнеючы горад. Калі мы ўжо прывучыліся да яўрэйскіх слоў: Амінь, Асанна і іншых, то давайце навучымся яшчэ двух: Сі, кіріе (Тебе, Господі) ды Парáсху кіріе (подай, Господі). Тады ўсе екцяніі нат спяваныя на старaславянскай мове будуць мелі грэчаскія адказы. У Польшчы жывуць грэкі. У царскіх семінарыях служылі ўсю літургію на грэчаскай мове, каб студэнты ведалі арыгінал.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Ашчаджаць варта!

Пачатковая школа ў Жуках Сакольскай гміны, хаця сама маленькая, аднак дабілася вялікага агульнапольскага поспеху. Менавіта гэтая школка, якую ў мінулым годзе наведвала ўсяго 28 дзетак, заваявала першае месца ў леташнім конкурсе „Сёння ашчаджаю ў СКО, заўтра ў ПКО" ў катэгорыі школаў да 500 вучняў. Сёлета ў гэтую школу ходзіць толькі 19 дзяцей.

Жукі — вёска на акраіне Сакольскай гміны з салідным школьным будынкам. Галоўным аўтарам поспеху гэтай маленькай школы з'яўляецца яе дырэктар і адначасна апякун СКО (Школьнай ашчаднай касы) Бэата Рачкоўская. Яна сумела прыцягнуць да акцыі дзяцей і захвоціць іх да разнароднай дзейнасці. Дзеці вучыліся прынцыпам гаспадарнасці, збіралі пластмасавыя і шкляныя бутэлькі, макулатуру, металалом, камяні на палях, ягады, грыбы і жалуды. Вучні выраблялі таксама жалобныя вянкі, святочныя ўпрыгожанні, палолі градкі, складалі дровы, убіралі яблыкі, памагалі ў полі і хатніх занятках. Прыбыткам давалі таксама школьная крама і дыскатэка. Школьнікі сваімі даходамі дзяліліся з інвалідамі і наладзілі супрацоўніцтва з Фондам „Усё для дзіцяці".

Ва ўзнагароду школа атрымала японскі мотаролер маркі „Гонда" і кубікі „Лега".

**Славамір Кулік**

# Такая дзяўчына марнуецца

Думкі дзеда Антона

Сонца свеціць, вясна набліжаецца, а стары пень сядзіць як трэба. Яшчэ адзін годзік майго жыцця міне, бо я на весну нарадзіўся. Кветкі цвілі, трава расла і я на свет паявіўся. Вясна гэта такая пара, што нават стары дзед гаворыць як паэт.

Хопіць аднак тае паэзіі, а вернемся ў маю вёску. Як я ўжо сказаў, вясна набліжаецца. Кожны гэта ведае і птушачкі з выраю прылятаюць, і сонца мацней свеціць, і кожная травінка на свет прабіваецца. Усе ведаюць, што вясна, але мой пляменнік, Саша, не ведае. Адкажаце, што гэта немагчыма, а ўсё-такі дакажу, што і так бывае. Саша жыве ў вёсцы, а працуе ў горадзе. Ён кавалер. Саша нарадзіўся ў тым годзе, калі нашы дапамагалі чэхам і славакам да розуму вярнуцца. Паехалі там, не адны, разам з рускімі, і хутка парадак навялі. Цяпер я чуў, што чэхі не вельмі нам удзячны за тую дапамогу. Так ужо бывае. Часам добрую справу камусьці зробіш, а ён нават падзякаваць не збіраецца... Я тут пра сёе-тое, а пра Сашу нічагусенька. Ён вельмі добры хлопец. Працавіты, чыстату трымае, што і не адна баба так не патрапіць, выпівае рэдка, не дурны, а бабы, вось, не мае. Што не жаніўся, то яго справа, але каб бабы ніколі не мець, у такім узросце, то хіба ўжо нешта не так. Кажу яму:

— Саша, чаму ты не жэнішся?

А ён мне заўсёды адказвае, што мае час. Мяне аднак гэта мучыць. Трэба якасьці пляменніку дапамагчы, але як, па сённяшні дзень не ведаў. А сёння, калі быў у Гайнаўцы, то ўгледзеў такую дзяўчыну, што аж калені мне падагнуліся. Высокая, амаль такая як я, а я да малых не залічаюся. Валасы каштанавыя, кучаравыя і даволі доўгія. Вочы цёмназялёныя і да таго вялікія і выразныя. На твары круглая. А фігура! Кажу вам, як на гэтыя вешалкі ў тэлевізары нагляджуся, то аж прыемна вока зачапіць на сапраўдную жанчыну. І нага як трэба, і грудзі як заморскія грэйфруты (нясмачныя вельмі, асабліва тыя скарынкі, але з'есці можна) і ўся яна як точаная. Вось такую б у хаце мець, каб гады і сілы дазвалялі! Так я на яе заглядзеўся, што аж застыў як тэлефонны слуп. Абудзіла мяне з гэтага захаплення суседка, якая таксама ў Гайнаўку прыехала:

— Што так, сусед, сталі і нічога не купляеце?

— Ой, нічога, суседачка, толькі заглядзеўся на тую жанчыну, мне здалося, што гэта мая дваюрадная сястра з Чыжоў.

— Ой, ведаю, ведаю вашу сястру, нічым яна паню Дароту не нагадвае. Прызнайцеся лепей, што задзівіліся вы на нашу настаўніцу па іншай прычыне.

— Ой, можа і так, суседачка. А вы яе ведаеце?

— Вядома, яна дзяцей вучыць і ў суседняй вёсцы жыве.

— Там, пэўна, замуж выйшла, бо яна, бачу, не з нашых бакоў.

— Дзе там замуж! Паненка!

— То адкуль яна ўзялася?

— Прыехала тут працаваць і так ужо асталася.

— А колькі гадоў ёй будзе?

— Магчыма, што ўжо за трыццаць.

— Але колькі за гэтых трыццаць, не ведаеце?

— Год або два.

Мы пагутарылі яшчэ дзве-тры хвіліны і пайшлі кожны ў свой бок. Я дахаты вярнуўся і ўжо без сведкаў пачаў усё перадумваць.

Мне гэтая пані Дарота хаця і падабаецца так, што аж грэх гаварыць як, але ўсё ж такі яна мне занадта маладая. А майму пляменніку яна была б акурат. У мяне ў сярэдзіне аж кіпіць, падумаў я, то што гаварыць маладому! Яна з Сашам і ў гадах амаль зыходзяцца. Хаця і крыху старэйшая, але гэта нічога.

Сеў я на веласіпед і да Сашы паехаў. Ён акурат з работы вярнуўся. Я адразу з парога гавару яму.

— Ты ведаеш паню Дароту?

— Ведаю, дык што?

— Як што, такая дзяўчына ў суседняй вёсцы сядзіць, а ты не ведаеш, што ў твае гады рабіць трэба?

— Дзядзьку, чаго вы хочаце?!

— Як гэта чаго хачу, ужо два гады талкую, што хачу, каб ты ажаніўся і шчаслівы быў.

— Добра, добра, з гэтым то я ўжо сам спраўлюся.

— Справішся! Акурат! Найлепш будзе, як я цябе высватаю і ўсё!

— Дзядзьку, але яна школу мае і за багацейшага, напэўна, хацела б...

— А ты што, ксёндз ці бацюшка, яна табе гэта на споведзі сказала?

— Не, дык я думаю, што яна за мяне ісці не захоча.

— А ты калі пытаў?

— Не пытаў, усё ж думаю...

— Думаць будзеш потым, а цяпер сядай на веласіпед і ў сваты паедзем.

— Дзядзечка, чаго вы на мяне начапіліся? Я ж не ваш сын.

— Ну, якраз добра, што ўспомніў. Твая маці, а мая траюрадная сястра, як пачала ўжо слабець так і сказала: „Антон, ты разумны чалавек, растлумач майму Сашу, што халасцяком хадзіць, то як у дзіравае вядро ваду ліць". Спяшайся, а то такую кабету табе з-пад твайго носа сарвуць, пакуль ты агледзішся!

Гаварылі мы доўга, але ён запёрся як свіння ў плоце, што ні ўзад, ні ўперад. Нічога з майго сватання не выйшла. Ай, шкада — такая дзяўчына марнуецца!..

**Выслухала і запісала**
**Іаланта Грыгарук**

# Учарашнія вуліцы

Адгалоскі

Прачытаў я менавіта так азагалоўлены артыкул Міхала Мінцэвіча ў „Ніве" № 5 (2177) ад 1 лютага 1998 года і задумаўся над паслядоўнасцямі змены палітычнага ладу. Адышла ў нябыт эпоха сацыялізму. Колькі ж іншых эпох змянілася толькі ў адным нашым стагоддзі... Пасля кожнай такой змены вуліцы, плошчы, заводы, школы пераймяноўваліся пад новую палітычную моду. Ці гэтак павінна быць і ў наш час? Цяпер жа маем дэмакратыю, значыць, уладу, якая належыць народу, і ў такой справе нельга паддавацца ціску зверху ці адвольнай інтэрпрэтацыі фактаў мясцовымі прыхільнікамі змагання з праявамі ўсяго, што нагадвае недалёкае мінулае. Трэба больш увагі звяртаць таксама і на гістарычны кантэкст.

Няшчасцем Орлі, паводле Міхала Мінцэвіча, з'яўляецца вуліца 1 Мая. Але ці аўтар ведае, што ў хвалёнай цяпер II Рэчы Паспалітай, хаця гэты дзень не быў выхадным, адбываліся шматлікія рабочыя мітынгі не толькі ў Беластоку, але і ў гмінных цэнтрах, напрыклад у маім Гарадку ці недалёкай Супраслі, дзе былі фабрыкі нямецкіх прадпрымальнікаў Гержгоня і Цытрона. Паліцыянты тады не прыходзілі толькі сачыць за парадкам, але разганялі і штрафавалі дэманстрантаў. Цяпер першы дзень мая лічыцца святочным днём міжнароднага характару і так сама выхадным як свята 3 Мая. Чаму ж некаторым хочацца былы таталітарызм замяніць новым?

Другое няшчасце, якое не дае спакою аўтару з Орлі, гэта вуліца Чырвонай Арміі. На маю думку, на справу трэба глянуць глабальна і не сустаўляць 7 нявінных жыхароў, якія загінулі пры адступленні Чырвонай Арміі 24 чэрвеня 1941 г. з многімі тысячамі байцоў, якія гінулі між 22 і 24 чэрвенем гэтага ж года на фронце ад Барэнцавага па Чорнае мора. Савецкія салдаты гінулі яшчэ доўга, амаль чатыры гады. У гэтай жа арміі служылі і змагаліся таксама беларусы як з усходняй, так і з заходняй Беларусі, уключна з жыхарамі Беласточчыны, Высокага-Мазавецкага, Замбрава і Ломжы. Многія нашы прызыўнікі з восені 1940 і вясны 1941 гадоў не вярнуліся, прапалі бясследна. Савецкія байцы гінулі на Беласточчыне двойчы — у 1941 і 1944 гадах. На тэрыторыі Польшчы ў змаганнях з гітлераўцамі палягло іх 600 тысяч. За ўвесь перыяд ад 22 чэрвеня 1941 г. да 9 мая 1945 г. загінула 20 млн. салдат (некаторыя гісторыкі лічаць, што 30 млн.). Гэта ж сыны, мужы, бацькі, якія пакінулі ў жалобе сваіх блізкіх. Магільнікі і брацкія магілы не адлюстроўваюць поўнасцю ахвяры простых чырвонаармейцаў. Таму лічу мэтазгодным пакінуць раней прысвоеныя званні Чырвонай Арміі вуліцам і іншым аб'ектам не толькі ў Орлі, але і ў іншых мясцінах Польшчы і такім чынам захаваць хаця б крышынку памяці аб бясследна прапаўшых, безыменных савецкіх салдатах.

**Антон Казлоўскі**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 13**

Важныя паведамленні аб падзеях у беларускіх вёсках усходняй Беласточчыны паявіліся ў 12 нумары „Нашай нівы" за 1908 год. Паведамленні гэтыя датычылі Шчытоў і Гарадка. У першым паведамленні аўтарства Міхалкі-Запалкі гаварылася аб тым, што ў Бельскім павеце ў 1907 годзе былі адкрыты тры новыя бібліятэкі-чытальні. З гэтай жа інфармацыі даведваемся, што ў вёсцы Шчыты ўзнікла „таварыство сельскіх гаспадароў і музэй сельскай гаспадаркі, каб паказаць мужыкам, як палепшыць гаспадарку". На жаль, карэспандэнт „Нашай нівы" не падаў шырэйшых інфармацый аб музеі. У канцы допісу аўтар сцвярджае: „Нашы мужыкі лічылі-бы бібліятэкі сваімі добрымі прыяцелямі, калі-б бібліятэкары — панічы, паны і паненкі — заглянулі-бы глыбей у мужыцкую душу, у жыццё его, пазнавалі-бы болей усе беды і радасці цёмнаго і забітаго мужыка і будзілі-бы ў ім пазнаньне, што ён — чалавек роўны другім". Аўтар другой інфармацыі, падпісаны „Янка, а па бацьку Кастусёў", апісаў здарэнне, якое мела месца ў Гарадку. Ужо раней „Наша ніва" некалькі разоў пісала аб дзейнасці чарнасоценнага саюза ў гэтым мястэчку. І на гэты раз аўтар, прадстаўляючы дзеянні членаў гэтай манархістычнай арганізацыі, звярнуў увагу на іх выключна дэструкцыйны характар:

„Мястэчка Гарадок, Беластоцкага павета, Гродзенскай губерні. Тутака ёсць „саюз рускага народа", ды вельмі цікавая яго гісторыя. Прад тым, як саюз той злажыўся, некалькі мужыкоў зрабілі зладзейскую хеўру, ды ўкралі ў аднаго гаспадара каня. Паліцыя пачала шукаць зладзеў і скора іх арыштавала. Убачыўшы, што ім будзе дрэнна, надумаліся яны загладзіць сваю віну і прылучыліся ў Гарадку да „Саюзу рускага народа". Іх за гэта пахвалілі, далі розныя льготы. Цёмныя мужыкі, гледзячы на тыя правы, якія дасталі саюзнікі, пачалі запісвацца ў „саюз".

Як карыстаюцца саюзнікі з сваіх правоў, паказвае такое здарэнне. Адзін чалавек, Чамель, купіў у манапольцы бутэльку. Разам з тэсцем пайшоў да знаёмага жыда, Гэцаля, выпіць тую гарэлку. Якраз надышоў нейкі саюзнік. Убачыўшы, што яны робяць, ён дазнаўся чыя гарэлка, і нягледзячы на тое, што жыд быў не вінаваты, паклікаў яшчэ другога саюзніка, ды ўдваіх пабілі ўсе вокны ў Гэцаля. Той бядак і да ураднiка хадзіў скаржыцца, але што можа зробіць бедны жыд?

Цяпер у Саюзі людзей паменшало: усе пазналі добра, што такое саюзнікі".

Вымова гэтай інфармацыі адназначная: яе аўтар быў рашучым праціўнікам Саюза рускага народа і ахвотна падбіраў ды апісваў такія факты, які кампраметавалі гэту арганізацыю.

З другога боку з прадстаўленых у некалькіх ужо нумарах „Нашай нівы" фактаў узнікае пытанне адносна прычын, з-за якіх жыхары Гарадка гарнуліся да такой рэакцыйнай структуры, як Саюз рускага народа.

**Алесь Барскі**

# Парнасік

### Каб не...

Каб не руская гарэлка,
Не было б як жыць!
Наша — дарагая вельмі,
Няма за што купіць.
Ці то нашы ўлады
Аб гэтым не знаюць,
Што праз мяжу рускіх
Да нас не пускаюць?
Трэба іх пусціць,
Ім свабоду даць,
Каб схацелі ехаць
Да нас гандляваць.
Прывязуць гарэлкі
(У іх яна танна),
І Грышку ды Івана
Будзем праслаўляць.
А нашыя ўлады
Нам не спачуваюць,
Яны кожны месяц
Цэны падымаюць!!!

**Мікалай Лук'янюк**

### Зарокся

Прагна Ваня піў
Піва, гарэлку, віно.
Горкае ўсё яно,
Ды як у душу наліў.
Лепшыя піва ды віно,
Чым сок ці малако.
А раз Ваня так напіўся,
Што свет яму закружыўся.
Прачнуўся ён на локцях,
Працяты вострым болем.
Ледзь да дому даволокся,
Кропельніцы яму калолі
У бальніцы тыдні тры.
— Больш не буду піць ніколі, —
Прысягаў сям'і.
А мінулі болі,
Зноў сябры пайшлі:
Гарэлка, віно...
Наш Ваня п'е зноў.

**Аўрора**

### Пачатак вясны

Пачатак вясны неспадзяваны,
На небе гусей караваны
Плывуць у родны кут і гагочуць,
У людзей міласці і спагады хочуць.
І жаўрук да нас паспяшыў,
Мо і „насмяшыў".
Калі было цёпла, спяваў
і круціўся,
Быццам да роднай зямлі так
маліўся.
Аднак павеяла холадам нечакана,
Надвор'е стала паганым;
Птушка недзе схавалася, але дзе?
Каб толькі не загінула і не быць
бядзе.
Кажуць, што на поўдзень
і журавель прыляцеў,
Так да нас вельмі хацеў —
Жывую прыроду ўпрыгожыць
і даць сваю мелодыю;
Яго курлыканне — чысты напеў
і не пародыя.
Паспяшыў да нас і шпак...
Не буду я пісаць замнога і шмат.
Мароз гэтым птушкам не сябра,
І не чакаць ад яго дабра.
Думаю, што мае сябры мароз
перажывуць,
Бо скора пацяплее і ўмомант
ажывуць.
А сакавіцка-красавіцкія выбрыкі
ўсім вядомыя
І людзі мы не „новыя":
Бачылі навесну розныя „штучкі",
Калі перад марозам лёталі мушкі.
Будуць дні цяплейшыя
І крылатыя сябры яшчэ
вярнейшыя.
Усё вернецца з поўдня ў родны
край
І стане ён цудоўны як рай.
Вясною чакае ўсіх работы многа —
Такая наша доля і дарога.

**Мікалай Панфілюк**

# Вер — не вер

Астроне! Сніцца мне, што адбываюцца памінкі па маёй маці. У нейкай нязнанай хаце.

Няма ніякага прыёму, але ідзе сюды шмат людзей.

Бачу свайго бацьку. Быццам ён прысутнічае, мачыха — таксама. Я размаўляю з бацькам. Мяне злуе, што ідуць да нас адно сваякі мачыхі, а нашых родзічаў яна на памінкі па маёй маці не запрасіла.

Але вось, бачу, ідзе ў гэты пакой па сходках з двара бацькава сястра з некім. Бацька мой і маці, а таксама мачыха ўжо памерлі, а бацькава сястра яшчэ жыве.

Што ўсё гэта можа абазначаць?

**Антаніна**

Астроне! Снілася мне, што я страціла два зубы ў роце, адзін з крышкаю крыві, другі — не. Я вельмі злосная, бо на іх трымаўся мой пратэз.

**Юля**

Антаніна! Твой сон прадвяшчае табе, на жаль, нейкі клопат, праблему (бацька), а ў выніку гэтага нават крыўду (бо табе прыснілася мачыха).

Тое, што ў хату ішло шмат людзей, абазначала б страту самастойнасці, але тое, што ўсё гэта сваякі мачыхі, прадвяшчае, што ідуць яны з той мэтай, каб прычыніць табе крыўду.

Другая частка сну можа таксама прадвяшчаць смерць тваёй цёткі, бо толькі яна засталася ў жывых, а ў тваім сне як бы ішла да тваёй маці-нябожчыцы, па якой спраўляюцца памінкі.

Юля! Вырваныя зубы заўсёды абазначаюць нешта, звязанае з хваробай, аперацыяй ці нават смерцю. Калі зуб вырваны з кроўю — можа гэта датычыцца некага сваяка па крыві, калі без крыві — някроўнага, як хаця б: муж, жонка ці іхнія сваякі.

А можа проста тыя зубы, абцяжаныя пратэзам, табе балелі.

**Астрон**

Спорт

# За кубак дырэктара ГОК

Вучні з пачатковых школ у Нараўчанскай гміне спаборнічалі ў настольным тэнісе за кубак дырэктара Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы.

Сярод вучаніц найлепш паказаліся Мар'еля Харкевіч і Іаанна Харкевіч — абедзве са Старога Ляўкова (занялі яны I і II месцы).

Сярод вучняў класаў V-VI перамоўцамі сталі: Войцех Вішнеўскі з Пачатковай школы ў Нараўцы (I месца), Міхал Аніскевіч і Мар'юш Харкевіч з ПШ у Старым Ляўкове (II і III месцы).

У групе вучняў класаў VII-VIII першае месца заваяваў Пшэмыслаў Леўша, другое — Пётр Аніскевіч, трэцяе — Кшыштаф Грыц і чацвёртае месца — Войцех Тамашук — усе з ПШ у Старым Ляўкове.

Кубак атрымалі ва ўзнагароду вучні стараляўкоўскай школы, якімі апякуецца настаўнік фізкультуры Юры Аніскевіч.

**За кубак войта...**

...ў настольным тэнісе змагаліся 32 асобы. Першае месца і кубак заваяваў Аляксей Харкевіч з Лешукоў, другое — Аляксандр Харкевіч — таксама з Лешукоў, а трэцяе і чацвёртае месцы — Пшэмыслаў Леўша ды Пётр Красноўскі з Ляўкова.

**(гай)**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. мінерал, які пры расколванні распадаецца на кавалкі геаметрычна правільнай формы, 8. канстытуцыйная сталіца Балівіі, 9. ядавітае рэчыва, 10. родны горад Карла Маркса, 11. горад на захадзе Сірыі, 13. расліна з пахучымі кветкамі-званочкамі, 15. вялікая балотная птушка, 16. бык, 20. бяскрэсная, неабмежаваная прастора, 22. Канстанцін, арганізатар нацыянальнага войска ў БНР (1893—1946), 23. абазначаючае слова, 27. едкая вадкасць ад перагонкі смалы, 29. наркатычнае рэчыва, 30. сталіца В'етнама, 31. лёгкаатлетычны снарад, 32. гара ў Каракаруме, 8611 м., 33. універсітэцкі горад у Турцыі, 34. Махамад, інданезійскі пісьменнік (1903—62).

**Вертыкальна:** 1. праліў між Хакайда і Хонсю, 2. Мірасланў, харвацкі пісьменнік (1893—1981), 4. рака і порт у Бразіліі, 5. Яўгеній, савецкі гісторык (1875—1955), 6. Янаш, венгерскі паэт (1817—82), 7. тонкая рыса, 12. Ігнат, адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра (1861—1917), 14. неперыядычнае літаратурнае выданне, 16. лёгкая лодка для катання па лёдзе, 17. знішчальныя атмасферныя ападкі, 18. новаарлеанская музыка, 19. дынастыя каралевы Крысціны, якая для любові адказалася ад трона, 21. Грыгорый, сучасны расейскі палітык, лідэр фракцыі ў Думе, 24. яго меркаванні прызнаюцца бясспрэчнаю ісцінай, 25. рака з вадаспадам Іматра, 26. Зоська, беларуская пісьменніца (1892—1991), 27. адпраўляе культ духаў і магіі, 28. дзяржава ў Азіі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 7 нумара**

**Гарызантальна:** пісака, Машара, Модэна, Рамо, ібіс, Цалінаград, корт, Анды, курыца, Андора, Цанкар.

**Вертыкальна:** Пісара, Камо, мана, Райніс, дэванагары, Моцарт, Ібадан, Корбан, дыктар, Кура, цаца.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.

**Адказ на крыжаванку з 8 нумара**

**Гарызантальна:** Нішава, Трапані, чынара, квакеры, якудза, трукач, Астрава, агарод, радыёла, сіпата.

**Вертыкальна:** этыкет, Макалу, калена, нічыя, Шынгу, выраз, катэдж, драсён, атаман, рэгбі, карта, чадра.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму і Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Шашкі

Ваяводскае згуртаванне народных спартыўных каманд (ZW LZS) у Беластоку і Гмінны асяродак культуры ў Дубічах-Царкоўных арганізавалі ваяводскія спаборніцтвы зборнай Беластоцкага ваяводства па шашках на стаклетачнай дошцы. Спаборніцтвы прайшлі 22 сакавіка 1998 года ў святліцы ГОКа ў Дубічах-Царкоўных. У турніры змагаліся 19 шашыстаў, у тым ліку 5 дзяўчат і 2 хлопцаў-юніёраў — Марк Тамчук і Юрка Смык.

Сярод мужчын перамаглі Раман Ліцкевіч (Беласток), Мікалай Крупіцкі (Бельск-Падляшскі), Януш Пашкоўскі (Беласток), Марыян Галубоўскі (Сідра), Вальдэмар Руткоўскі (Простки). Перамоўцамі сярод дзяўчат сталі Юстына і Дарота Тамчукі з Карыцкі ды Анна Швед з Гайнаўкі. За выкананнем правіл гульні сачыў суддзя Лявон Мікуліч — чэмпіён Польшчы па стаклетачных шашках 1988 і 1989 гадоў. Прызы самым лепшым шашыстам прыдбалі арганізатары, а ўручыў Лявон Мікуліч.

**Славамір Кулік**


# Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.
Druk: „ORTHDRUK", ul. Składowa 9, Białystok.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міранові.
**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**
1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка

**Фрашкі пра нашых**

## Мацей Нашаніўскі

Рагаты ветах
вечна
ў небе завешвае
Алах, Якому надаем
імёнаў многа.
Ідзе з кавенькай ужо,
ды няспешна
Яму ад ніві роднае
на неба сёмае
да Бога.

## Касіў Ясь

Чаго Яся не вучылі,
сам дайшоў, пад горку.
Зрабіў Ясь такое, што
не сніцца „зоркам”.
Не адно у планах мае
хлопец наскі.
Каб ано не лезлі
майстры ад падказкі!

**Вандал Арлянскі**

*Радыёдзеяч і Дзяржаўны Дзеяч (зверху).* Мал. Алега КАРПОВІЧА

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

— Чаму, дарагая, ты так плакала, калі я спытаў, ці выйдзеш за мяне замуж?

— Ад радасці! Мая мамачка заўсёды гаварыла, што такое дзяўчыны нават асёл не возьме за жонку, ды аказваецца, што не мела яна рацыі.

* * *

— Чаму ты не ажэнішся з Варкаю? Маеце ж ужо трое дзяцей...

— Бо яна мне не падабаецца.

* * *

— Чаму ты ажаніўся з Іркаю? Вы ж да сябе зусім не пасуеце...

— Гэты шлюб выратаваў мне жыццё!

— Як гэта?

— Бо Маруся сказала, што калі з ёю не ажанюся, дык мяне застрэліць.

* * *

Перад шлюбам.

— Ці ёсць у цябе, дарагі, нейкія дрэнныя прывычкі?

— Няма.

— А хобі?

— Люблю раслінкі.

— Якія?

— Жыта, хмель і махорку.

* * *

— Што пра мяне думаюць твае бацькі? — пытае ён.

— Не ўмею табе на гэта адказаць. Тата нічога не гаворыць, а мама чакае на тое, што ён скажа, каб даказаць яму, што не мае рацыі.

* * *

— Што маю зрабіць, каб ты была толькі мая?

— Замкні дзверы на ключ.

* * *

На выходзячую ад шлюбу пару пайшоў праліўны дождж.

— Няшчасці сапраўды ходзяць парамі, — заўважыў малады.

* * *

Маладая пара выходзіць з ЗАГСу.

— Ох, як мне хочацца, каб ужо быў вечар, — кажа яна.

— І я, — з хваляваннем адказвае ён.

— То і твае туфлі таксама цесныя?

* * *

— Дасі мне, дарагая?

— А што?

— Тое, што маеш найлепшае.

— Здурэў! Бацькавай пярыны яму захацелася...

## Аб шкоднасці дакору

Аднойчы „Гоні” вельмі нетактоўна дакарылі Радыёдзеяча ў браку прафесійнасці. Той, зразумела, будучы абсалютным прафесіяналам, адчуў вялізную асабістую крыўду і рашыў адпомсціць. Дзеля гэтага Радыёдзеяч склікаў адмысловую каманду ды папрасіў яе выдзяліць свае заўвагі наконт прафесійнасці „гонікаў”. Радыёдзеяч небеспадстаўна пабойваўся, што ягоны крыжовы паход па дрыгвяністых гонях крытыкі можа абярнуцца ў дрыстачку, адмыцца ад якой не здолее ўсё жыццё і таму як месца дыскусіі абачліва выбраў найдасканалей абсталяваны салон грамадскай прыбіральні.

— Фффффффффф? — Радыёдзеяч няўпэўнена паставіў першае сваім субяседнікам пытанне.

— Ммммууух!!! — пачырванелы ад напругі Дзяржаўны Дзеяч, удзельнік Камісіі па сусветным выдзяленні шлакаў, выпусціў першы гарошак. — Балота, гразь ды яшчэ раз балота! Прабачце за выражэнне. „Гоні” — гэта поўны брак духмянасці і прафесіяналізму ў яе выдзяленні. Ммммууу!!!

Тут Радыёдзеяч адчуў сябе ўпэўнена. Ён цалкам гучна паставіў наступнае пытанне.

— Фррpхррррррррпффф!? Хто з вас рэгулярна перанюхвае „Гоні” і чаму не ёсць у іх поўнага спектра пахаў!

Пытанне добра-ткі разышлося ў паветры ды навяло дыскусію на адпаведна высокі ўзровень духмянасці. Хуткі, як заўжды, Маладзёвы Дзеяч не паўстрымаўся ды выціснуў з сябе ўсё за адным сёрам.

— Калі абы-які дзяцюк задухмяніць паветра, — з-за слабога ведання граматнай мовы ён зблытаў дзецюка з дзіцём, але даруйма яму гэта, — дык яны адразу гэта знюхаюць, сфатаграфуюць і паддухмяняць яшчэ. А потым нюхаюць і захапляюцца. Ух і ах! А вось, калі, прыкладова, я збіраюся сходзіць па вялікім, ніхто гэтага не заўважае, адварочваюць насы. А пах жа ў мяне нармалёвы, духмяны і свядомы. Яны там, у „Гонях”, толькі ўнітазы нам займаюць! Сядзяць на іх ды толькі фармальна спраўляюцца з нашымі патрэбамі.

— І таму, — матыў гэты падхапіў Дзяржаўны Дзеяч, — грамада наша не цікавіцца „Гонямі”, у якіх або ствараюцца новыя араматы, або перамешваюцца і зафальшоўваюцца нашы сапраўдныя, або, прабачце за выражэнне, з балотам мяшаюць праявы высакароднай духмянасці. І таму ў грамадзе нараджаецца многа ўнутранага запору! Мы пра гэта дасканала ведаем. Ммммуу! Як жа ў такіх умовах нармальна справіцца нам з сапраўднымі патрэбамі? А іх жа ў нас нямала.

У Радыёдзеяча было яшчэ адно пытанне, фармуляваў якое даволі доўга.

— Шшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшшш!? Шшшшш!? Шшшш!? Шш!?

— Шшш! — хутка, як заўжды, адказаў Маладзёвы Дзеяч.

— Плом! — натужліва паставіў кропку Дзяржаўны Дзеяч.

Канец. Радыёдзеяч падзякаваў гасцям за ўдзел у дыскусіі ды пажадаў многа-многа паводзін у асабістым і прафесійным жыцці. Яны развіталіся традыцыйнай формаю:

— Пррр! Фсссссссь!

**Сцяпан Абух**

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Ёсць у мяне сяброўка на рабоце, пра якую б я табе, можа, і не пісаў, але ўжо вытрымаць не магу, як яна сябе паводзіць.

Перш за ўсё высветлілася, што ёй не падабаецца працаваць у нас. Калісь паехалі мы з ёй у Варшаву ў камандзіроўку. Паехалі цягнікам, сядзім, размаўляем. Ну, здаецца, канапкі яна з сабой узяла, напітак. Сядзі ды еш, пі! Не — пайшла шукаць вагон-рэстаран. Недзе там кагосьці спаткала, стаіць у калідоры, зубы скаліць, а я адзін сяджу. Чакаў я, чакаў аж да Варшавы. Тады прыбегла, схапіла свае манаткі, і мы выйшлі з цягніка ды пайшлі на нараду.

Вяртаемся назад. Вечар, за вокнамі цёмна. Сядзім у цягніку, больш нікога ў нашым купэ няма. Змучаныя. Ну, думаю, хоць цяпер пасядзіць яна, як чалавек, ды і прылегчы магла б. Дык жа не, ізноў пайшла лазіць. Мяне не запрашае, нават не інфармуе, куды ідзе. Сяджу, чакаю, а яе няма. Мяне халера бярэ. Дай, думаю, пайду і гляну, дзе яна можа быць. Бачу, а яна ў іншым купэ расселася, шчабеча нешта са старым хрэнам.

Я стаў у дзвярах, глянуў на яе шматзначна, а яна толькі ўсміхнулася і шчабеча далей. Я яшчэ пастаяў пару хвілін, ды пайшоў. Чаго ж буду тырчэць тут...

Але ж вось вазьмі ты... не вытрымаў я. Пайшоў ізноў. Усё паўтарылася. Ну, думаю, гадаўка, больш да цябе не адазвуся. А яна прыходзіць і кажа: ведаеш, сустрэла знаёмага дырэктара, можа мне працу дасць, лепш платную. Як ты думаеш, стрымае ён слова? Бо абяцаў мне, што напэўна дапаможа.

Ну, дык мяне і панесла. А ў нас, кажу ёй, табе кепска ці што? І пачаў ёй даваць то даваць. Вой-вой, як падумаю, што яе ў нас можа не быць, дык проста свет памутнеў. А яна — нічога. Нават не абразілася на мяне.

З працы ад нас адыйсці ёй не ўдалося. Даводзілася ездзіць у камандзіроўкі не толькі ў Варшаву, але і ў меншыя мясцовасці. Найбліжэй да яе было мне ў камандзіроўцы. Асабліва тады, калі мы ехалі службовым самаходам, а не цягніком. Можна было сядзець побач, нават крыху прытуліцца.

Вяртаемся мы з адной мясціны, стомленыя. Заехалі ў сваю фірму, гарбатку зрабілі. Зараз жа нешта і да гарбаткі знайшлося. Павесялелі ўсе і нас трое і шафёр. Нехта выскачыў у краму, закуску купіў, дакупіў гарэлкі. Сядзім, адзін перад другім гаворым.

Раптам бачу: наш шафёр да яе падсоўваецца. Ну, думаю, яшчэ чаго не хапала. Уз'еўся я, а ёй, відаць, прыемна. Уся цвіце ад радасці. Ну, і што, даць яму па мордзе?!. А-а, не буду пэцкаць рук.

Гляджу, а ўжо яны ў кутку на падлозе ляжаць. Дальбог, пакаціў яе! А няхай цябе халера з людзьміма. То ж ты з ім нават не хадзіла...

Святло пагасілі, настольную лямпачку адно пакінулі і цмокаюцца там ды ласяцца адно да другога. Мы з сябрам сядзім, пазіраем адзін на другога: што ж гэта будзе? Невядома, глядзець у іх бок ці адвярнуцца.

А пасля яны (сяброўка з шафёрам) выйшлі з пакоя, праз дзесяць мінут вярнуліся, не глядзяць нам у вочы. Нейкія памятыя, ужо не цалуюцца. Усё было ясна.

Я больш цярпець гэтага не мог. Устаў і выйшаў. Як яна магла зрабіць штосьці такое?! А што ты пра гэта думаеш, Сэрцайка? Бо я думаў пра яе лепш.

**Данат**

Данацік! Дальбог, ты руйнуеш гэту дзяўчыну. Мо ты ў яе нават закаханы, а яна гэтага не заўважае... Бач, яна да цябе ўжо, відаць, прывыкла, як да калегі, а з шафёрам бывае радзей, вось і панеслі яе эмоцыі.

Слухай, ты тут насоўваеш нам канкрэтныя падазрэнні, а яны мо выйшлі ўсяго ў туалет...

Данацік! Будзь мужчынам!

**Сэрцайка**